# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 9 (679) 2 САКАВІКА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫЯ СХОДЫ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

● 31.I.1969 года адбыўся справаздачна-выбарчы сход у Збучы. Член праўлення аддзела Васіль Дзун расказаў прысутным аб дзейнасці Камуністычнай партыі Польшчы (50 гадавіна) і 20-цігадавой кіраўнічай ролі Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пасля абмяркоўкі працы гуртка БГКТ прысутныя выбралі новае праўленне гуртка. І так, зараз старшынёю з'яўляецца Кастусь Макац, а членамі праўлення гуртка: Сцяпан Карпюк, Вера Саенка і Яўгень Заброцкі. Дэлегатам на канферэнцыю аддзела выбраны Яўгень Заброцкі.

● Справаздачна-выбарчы сход у Дубінах адбыўся 24 студзеня. Члены Беларускага таварыства доўга гаварылі аб паляпшэнні працы гуртка, аб актывізацыі ўсіх членаў, аб ролі БГКТ у іх вёсцы. На гэтым жа сходзе было прынята ў рады нашай арганізацыі 20 новых членаў, і зараз гурток налічвае 64 асобы. Да праўлення гуртка выбраны: Ірына Ляшчынская (старшыня) і члены: Рыгор Ярмоць, Уладзімір Кічкайла, Валянцін Дзмітрук і Валя Шадуя. Сход выбраў таксама дэлегатаў на канферэнцыю аддзела.

● У Старым Ляўкове на сходзе прысутнічала 15 асоб. 3-х членаў не прысутнічала. Члены БГКТ многа гаварылі аб мастацкай самадзейнасці і рашылі стварыць у сябе драмгурток. Падкрэслівалася таксама неабходнасць усімі членамі Беларускага таварыства падпіскі «Нівы». На сходзе было прынята ў БГКТ 4 новых членаў. Пасля абмяркоўкі кандыдатаў у праўленне ўсе аднагалосна выбралі старшынёю настаўніка Мікалая Бартошука, сакратаром Аляксандра Бандарука і скарбнікам Ірыну Скепка. Прадстаўляць гурток на канферэнцыі аддзела будзе Ніна Карпюк. Абслужыў гурток актывіст аддзела Янка Цялушэцкі.

● Справаздачна-выбарчы сход у Жуках адбыўся 9-га лютага. Прысутнічала на сходзе 14 асоб. Пастаноўлена ажывіць дзейнасць гуртка БГКТ. Старшынёю гуртка выбраны Рыгор Сукачук, сакратаром — Віталіс Дзікала і скарбнікам Зося Голуб. На канферэнцыю аддзела паедзе старшыня гуртка.

● Гурток БГКТ у Дубічах Асочных складаецца з 13 чалавек. Былы старшыня гуртка Янка Грыгарук прачытаў справаздачу з дзейнасці гуртка БГКТ. Гурток пастанавіў арганізаваць у сваёй вёсцы эстрадны калектыў. На сходзе ў Беларускае таварыства было прынята 5 новых членаў. Пасля шырокай дыскусіі прысутныя выбралі новае праўленне гуртка, якое ўзначаліла Ніна Карпюк. У склад праўлення выбраны: Янка Грыгарук, Мікалай Мароз, Мікалай Назарук і Яўгень Раманюк. Дэлегатамі на канферэнцыю аддзела выбраны Н. Карпюк і Я. Раманюк.

● У Грузцы на справаздачна-выбарчым сходзе многа ўвагі было прысвечана супрацоўніцтву гуртка БГКТ з партыйнай арганізацыяй. Пастаноўлена на сходзе, што гурток БГКТ уключыцца ў грамадскі чын пры будове школы. Выказана ўсімі было таксама жаданне, каб запрасіць у вёску на канцэрт эстраду Галоўнага праўлення «Лявоніху». Прысутныя выбралі старшынёю гуртка Янку Гапоніка, сакратаром Ніну Манцюк і скарбнікам Олю Манцюк. Дэлегатам на канферэнцыю выбрана настаўніца Ніна Манцюк. Сход гуртка абслужыў член праўлення аддзела Васіль Дзун, які правёў гутарку ў сувязі з 50-ай гадавінай КПП і 20-ай гадавінай ПАРП. (мх)



Зімовая дарога

Фота: Р. Сенька

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

## БОЛЬШ ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦІ

Гарадскі аддзел Беларускага таварыства ў Беластоку дзейнічае ўжо больш адзінаццаці год. За гэты час выпрацаваўся своеасаблівы стыль працы праўлення аддзела і яго выхаваўчыя формы. Да найбольш эфектыўных гэтых форм трэба залічыць штонядзельныя савецкія фільмы, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод членаў БГКТ. Ужо даўжэйшы час практыкуецца, што перад пачаткам фільма праводзяцца пятнаццацімінутныя гутаркі, тэма якіх звязана пераважна з беларускай літаратурай, культурай, гісторыяй, а таксама з рознымі дзяржаўнымі гадавінамі. Наведвальнікі ўжо прывыклі да таго метаду ў галіне гэтай працы аддзела, і здаецца форма гэта зусім добрая. Тут можна толькі звярнуць увагу на паводзіны пераважна моладзі ў час сеанса. Не заўсёды ёсць ціцыня. На гэтую справу праўленню аддзела неабходна больш звяртаць увагі. Безумоўна, гэта дробная справа, але і яе трэба пазбыцца.

Заўсёды перапоўненая зала, калі аддзел арганізуе акадэміі. У сувязі з тым трэба намагацца, каб кожная такая акадэмія была свайго роду выхаваўчым урокам. Факт, што каб добра ўдалося кожнае мерапрыемства, трэба да яго добра падрыхтавацца, добра ўсё прадумаць. З гэтым не заўсёды ў нас добра. Дам прыклад. Гарадскі аддзел шырока адзначаў 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. За прэзідыяльным сталом заселі ў асноўным маладыя людзі, а ў зале знаходзіліся заслужаныя ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Чаму б іх не пасадзіць за прэзідыяльным сталом і не папрасіць, каб яны расказалі аб тых вялікіх днях. Гэтым значна ўзбагаціўся б выхаваўчы бок акадэміі.

Падобныя акадэміі далей будуць арганізавацца. І варта на акадэмію прысвечаную Савецкай Арміі запрасіць на ўрачыстасць былых чырвонаармейцаў. А ў нас такіх ёсць шмат. На першамайскую акадэмію запрасіць былых удзельнікаў рабочага руху, на акадэмію прысвечаную Войску Польскаму — нашых вайскоўцаў, на акадэмію з нагоды Адраджэння Польшчы — арганізатараў народнай улады на Беласточчыне і г.д.

Аддзел калі-некалі арганізуе танцавальныя вечарыны. Для моладзі яны неабходны. Справа толькі ў тым, каб яны культурна праходзілі. І тут вялікая роля актыву, які арганізуе гэтыя забавы. Трэба дабіцца таго, каб ведала моладзь, што на Варшаўскай 11 вельмі культурна, і трэба культурна весці сябе. Карацей кажучы, неабходна патрабавальна адносіцца і да сябе, і да іншых.

І наступная справа. Гарадскі аддзел не мае свайго драмгуртка, відавочна яго і не будзе. А ў некаторых вёсках на такім высокім мастацкім узроўні моладзь ставіць беларускія п'есы, што не соромна было б паказаць такіх самадзейнікаў і ў Беластоку. Са свайго боку прапаную хаця раз на квартал запрашаць у Беласток добрых аматараў. Напэўна з вялікай прыемнасцю на выступленне мастацкай або харавой групы прыдуць нашыя члены і сімпатыкі.

Калісьці гарадскі аддзел меў вялікі харавы калектыў. Потым быў ён меншы. У мінулым годзе некалькі месяцаў існаваў мастацкі калектыў, які назваўся «Самасейкі». Цяпер зноў нічога няма. Неяк не ўмеем мы працаваць так, каб і ў Беластоку развіваўся аматарскі рух. Не хапае нам здаецца часу і ахвоты па-сур'ёзнаму заняцца гэтай справай.

Аддзел наш мае шмат грампласцінак.

Працяг на стар. 4

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

Асноўнай задачай, якую ставіў Ленін для маладой Савецкай Дзяржавы на пачатку яе сацыялістычных пераўтварэнняў, была задача электрыфікацыі Расіі. Так пад асабістым кіраўніцтвам Ільіча ў 1920 годзе ўзнік славуты план ГОЭЛРО. «Камунізм, — гаварыў тады Ленін, — гэта ўлада Саветаў плюс электрыфікацыя».

З нагоды 50-ай гадавіны Вялікай Сацыялістычнай кастрычніцкай рэвалюцыі па ўсім Савецкім Саюзе разгарнулася спаборніцтва пад лозунгам «Лампачкі Ільіча ў кожны дом!» Спаборніцтва ахапіла таксама Савецкую Беларусь. Яго вынікі захапляючыя.

## ЛЯМПАЧКІ ІЛЬІЧА

Усе гарады і вёскі БССР поўнасцю ўжо электрыфікаваны! Без электрычнага святла астаюцца толькі некаторыя далёкія хутары, у якіх менш як 10 дамоў.

Беларусь багата электраэнергіяй. Мае яе нават больш, як патрабуюць жыхары і прадпрыемствы. Незадоўга пачне працу яшчэ адна новая магутная Лукомская электрастанцыя, моц якой плануецца да 4 мільёнаў кілаватаў.

З беларускай электраэнергіі шчодра карыстае Беластоцкае ваяводства. Калі ў Нарве, ці ў Ляўкове, у Мілейчыцах і Мастаўлянах, і ў Юшкавым Грудзе, і ў Разадранцы, і ў сотнях іншых вёсак вечарам уключаюць святло, дык у кватэрах загараюцца «Лямпачкі Ільіча». І не толькі. Гэтае самае, калі зазіхацяць неонавыя рэкламы, калі загарыцца вулічнае асвятленне, калі заграхочуць машыны ў фабрыках і прадпрыемствах, калі адазвецца радыё, загаворыць тэлевізар, калі гаспадыня ўключыць сціральную машыну, пыласос, ці электрапрас — тады таксама паплыве электрычнасць з Беларусі.

Палавіна электраэнергіі, якая плыве па павуціннай сетцы правадоў на Беласточчыне — гэта «беларуская» электраэнергія.

Супрацоўніцтва беластоцкіх і гродзенскіх энергетыкаў пачалося ад зімы 1962 года. Тады ў рамках супрацоўніцтва краін членаў Савета Узаемнай эканамічнай дапамогі (па-польску — РВПГ) былі між урадамі ПНР і СССР падпісаны адпаведныя ўмовы аб падачы электрычнай энергіі з Савецкай Беларусі ў Польшчу.

Гэтае супрацоўніцтва дазволіла беластоцкім і гродзенскім энергетыкам наладзіць сяброўскія кантакты. Службовыя справы прымушаюць адных і другіх кожны год узаемна сябе наведваць. Вось нядаўна (на пачатку лютага г.г.) на Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі гродзенскіх энергетыкаў у асобах: дырэктара гродзенскага энергазбыту Аляксандра Чумачэнкі і кіраўніка вылічальнага аддзела гродзенскага энергазбыту Віктара Доўнара. Дырэктар А. Чумачэнка на Беласточчыне ўжо чацвёрты раз, В. Даўнар — другі раз. Прадстаўнікі беластоцкіх энергетыкаў таксама часта бываюць у Гродна і ў Росі, дзе знаходзіцца дыспетчарская станцыя, з якой пасылаюць электраэнергію ў Польшчу. Адны і другія лічаць сябе старымі сябрамі, шчыра абменьваюцца прафесіянальным вопытам і тэхнічнымі навінкамі. Вось дырэктар А. Чумачэнка сказаў нам, што яго асабліва пацікавіла сістэма збыту электраэнергіі, якая прымяняецца ў Польшчы. Прадбачвае яна дзве розныя цэны: адну — шмат вышэйшую ў дзень і вечарам, калі строга павышаецца запатрабаванне на электраэнергію і другую — шмат ніжэйшую — ноччу, калі малое запатрабаванне на электраэнергію. Нашых беластоцкіх энергетыкаў цікавіць у сваю чаргу сістэма аплочвання, якая прымяняецца ў БССР. Аказваецца, што там кожны карыстальнік мае кантрольную кніжку і штомесяц сам кантралюе свой лічнік і сам аплочвае адпаведную колькасць грошай. Прадстаўнікі энергазбыту праводзяць кантроль раз у год. Беластоцкія энергетыкі маюць намер гэтую сістэму выпрабаваць у нас.

Так на практыцы здзяйсняецца вялікая ідэя ўсебаковага міжнароднага супрацоўніцтва краін народнай дэмакратыі. Арганізацыйныя рамкі гэтаму супрацоўніцтву стварае Савет узаемнай эканамічнай дапамогі.

В. Рудчык

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### ПЕРШЫ ВІЗІТ

Чэхаславакію наведаў міністр замежных спраў Польскай Народнай Рэспублікі доктар **Стэфан Ендрыхоўскі.** Гэта першы візіт шэфа нашай дыпламатыі ад жніўня 1968 года ў Чэхаславакіі, якая стала федэрацыяй, і першы візіт міністра С. Ендрыхоўскага, які ўзяў на сябе кіраўніцтва нашай дыпламатыяй пасля міністра Адама Рапацкага.

Пры аказіі інфармуем, што па запрашэнню нашых найвышэйшых улад Польшчу наведаюць прэзідэнт Чэхаславакіі Людвік Свобада і міністр замежных спраў Ян Марко.

### ЧЫСТАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

Справа правядзення выбараў бонскага прэзідэнта ў заходнім Берліне, выкліканая ўрадам ФРГ, надалей з'яўляецца ў цэнтры ўвагі друку, радыё і тэлевізіі. Амаль з усіх каментарыяў, незалежна з якіх пазіцый яны пісаны, даецца адчуць, што гэта класічны ўзор правакацыі. Не было ніякіх прычын на тое, каб пераносіць выбары прэзідэнта ФРГ у заходні Берлін: ні праўных (заходні Берлін не з'яўляецца часткай тэрыторыі ФРГ), ні камунікацыйных (заходні Берлін знаходзіцца на тэрыторыі ГДР). Застаецца толькі чыстая правакацыя, разлічаная на рэакцыю супрацьлеглага боку.

### ВАЕННЫЯ ВУЧЭННІ

У пачатку сакавіка г.г. у цэнтральных і заходніх раёнах ГДР будуць праведзены ваенныя вучэнні групы савецкіх войск, прабываючых у ГДР, і Народнай арміі ГДР. Вучэннямі будзе кіраваць галоўнакамандуючы ўзброеных сіл Варшаўскага дагавору маршал Савецкага Саюза **Іван Якубоўскі.**

### АБ КІТАІ

Толькі на працягу аднаго месяца ў мінулым годзе надрукавана ў Кітаі каля 30 мільёнаў экземпляраў, камплектаў і паасобных збораў твораў Мао Цзэ Дуна, больш 740 мільёнаў экземпляраў збораў яго цытатаў і больш 90 мільёнаў брашур, у якіх змешчаны паэтычныя творы Мао. Гэтыя лікі падае В. Валін у артыкуле, змешчаным у 5 нумары часопіса «За рубяжом».

### БАКТЭРЫЯЛАГІЧНАЯ ЗБРОЯ ЗША

У ЗША прадукаваная хімічная зброя дзеліцца на тры асноўныя групы: газы, хімікаты, знішчаючыя расліны, і бактэрыялагічная зброя. Справа прадукцыі гэтай зброі з'яўляецца вялікай таямніцай. Аднак часам паяўляюцца звесткі на гэтую тэму ў амерыканскім друку. Так у мінулым годзе «Нью Йорк Таймс» змясціў выказванні аднаго з амерыканскіх спецыялістаў ад бактэрыялагічнай зброі. Сказаў ён, між іншым, што 250 літраў прадукаванага ў ЗША канцэнтрату бактэрый, калі яго рассеяць на вышыні ад 8 да 160 кіламетраў над паверхняй зямлі, заразіць абшар велічынёй 1/3 Злучаных Штатаў. Калі б прымяніць канцэнтрат, прадукаваны пад назвай «plague», дык 80 працэнтаў жыхароў заражанай тэрыторыі захварэла б на вострае запаленне лёгкіх, найчасцей смяртэльнае. (ак)



## БССР

### ВОЕНАЧАЛЬНІКАЎ

За вялікія баявыя заслугі ва ўстанаўленні і абароне Савецкай улады ў рэспубліцы і ў сувязі з Пяцідзесяцігоддзем Беларускай ССР і Камуністычнай партыі Беларусі Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагародзіў Ганаровымі граматамі БССР групу савецкіх военачальнікаў.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Прытыцкі ва ўрачыстым настроі ўручыў Ганаровую грамату міністру абароны Саюза ССР Маршалу Савецкага Саюза А.А. Грэчку. Затым ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР атрымалі першы намеснік міністра абароны Саюза ССР, начальнік Генеральнага штаба Узброеных Сіл СССР, Маршал Савецкага Саюза М. В. Захараў, намеснік міністра абароны Саюза ССР генерал арміі С.С. Марахін і Галоўны маршал авіяцыі К. А. Вяршынін.

Ганаровыя граматы былі ўручаны таксама Маршалу Савецкага Саюза С. К. Цімашэнку, маршалу авіяцыі С. І. Рудэнку, генералу арміі А.А. Лучынскаму, генерал-палкоўнікам А. С. Бурдзейнаму, П. Т. Лукашыну, Н. А. Начынкіну, В. Т. Абухаву, А. П. Пакроўскаму і групе генерал-лейтэнантаў.

Маршал А. А. Грэчка падкрэсліў у прамове, што кожны з узнагароджаных успрымае Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР не як асабістую ўзнагароду, а як узнагароду ўсім Узброеным Сілам, усім, хто ў розны час стаяў на варце мірнай працы беларускага народа, граміў гітлераўскіх захопнікаў.

### ПОЛЬСКІХ

У цэлым Саюзе ССР — таксама і ў Беларусі — рыхтуецца фестываль польскіх п'ес. У ліку твораў, якімі цікавяцца савецкія тэатры, — п'есы класікаў польскай літаратуры Станіслава Выспянскага і Юльюша Славацкага, а таксама п'есы сучасных пісьменнікаў Яраслава Івашкевіча, Ежы Брашкевіча, Ежы Юрандота, Тыматэуша Карповіча, Эрнеста Брыля, Кжыштофа Хаінскага, Ляона Кручкоўскага.

### МАЛАДОЕ

Самае маладое ў Беларусі выдавецтва Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна разгортвае цікавую дзейнасць. Сёлета ў гэтым выдавецтве будзе выпушчана 62 загалоўкі тыражом каля 250 тысяч экземпляраў.

М. ін. выйдзе кніжка С. Віхрава «У. І. Ленін аб суверэнітэце саюзных рэспублік», «Карл Маркс і сучаснасць», «Некаторыя пытанні эканамічнага развіцця БССР», «Пытанні гісторыі БССР» і інш. З галіны філалогіі — «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследванні». Аўтар, абапіраючыся на малавядомыя архіўныя матэрыялы, даследуе шэраг важных пытанняў развіцця беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзяў. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ДА ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ ПРАЦЫ!

20 лютага адбыўся мітынг рабочага калектыва гуты «Варшава», на якім рабочыя ўзялі на сябе ініцыятыву прадукцыйных абавязацельстваў у гонар 25-годдзя Народнай Польшчы. Рабочыя звярнуліся з заклікам да ўсіх людзей працы нашай краіны. У закліку між іншым чытаем:

**«Набліжаецца XXV гадавіна Народнай Польшчы. Для адзначэння гэтай гадавіны рабочы калектыў гуты «Варшава» заклікае ўсіх, хто сваёй працай, сваімі намаганнямі будуе наш супольны дом, нашую айчыну — Народную Польшчу: Адзначайма гэтую вялікую гадавіну прадукцыйнымі і грамадскім чынам.**

**Заклікаем рабочыя калектывы гутаў, шахтаў і заводаў, рабочых ПГР, працаўнікоў навукі і моладзь, усе прадпрыемствы і ўстановы ў Польшчы — да прадукцыйных абавязацельстваў і прац грамадскім чынам.**

**Няхай у гэтым прыгожым, патрыятычным пачыне не забракуе ніводнага працоўнага чалавека, няхай будзе ён пачынам, годным гэтага вялікага юбілею».**

Рабочыя выслалі таксама ліст да I сакратара ЦК партыі Уладзіслава Гамулкі, у якім між іншым пішуць:

**«Разумеючы заданні, якія перад усёй Партыяй і перад усім народам паставіў V з'езд, мы гатовы ўласнымі намаганнямі, як найбольш энергічна садзейнічаць іх рэалізацыі: бачым наяўна перш за ўсё тыя заданні, якія датычаць нас, рабочых сучаснай сацыялістычнай варшаўскай прамысловасці».**

### ГАСПАДАРКА

На справаздачна-выбарчай ваяводскай канферэнцыі ў Ольштыне з прамовай выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК партыі Балеслаў Яшчук. Сканцэнтраваўся ён на праблемах далейшага гаспадарчага развіцця краіны. Балеслаў Яшчук звярнуў перад усім увагу на вялікі недахоп у гаспадарчым развіцці, якім з'яўляецца надта доўгі інвестыцыйны цыкл. Адной з істотных прычын гэтага з'яўляецца недастатковая колькасць будаўнічых матэрыялаў, а асабліва цэменту. З прадаўца цэменту на міжнародным рынку цяпер мы сталіся яго пакупніком. Прамоўца сцвердзіў, што ў бліжэйшым часе ў гаспадарчай палітыцы ўвядзецца метад дакладнага эканамічнага разліку, які з'яўляецца адзінай крытэрыяй грамадскай і эканамічнай прыдатнасці кожнай гаспадарчай адзінкі.

### МЕДЗЬ

Шахты Любінска-глагоўскага басейна медзі штораз больш прыспешваюць выдабыццё руды. У месяцы маі гэтага года шахцёры адзначаць будуць выдабыццё 2-мільённай тоны руды медзі, а ў кастрычніку — 3-мільённую тону гэтай руды. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЗАКЛІК І АДКАЗ

Варшаўскія металургі вырашылі прадукцыйнымі абавязацельствамі сустрэць 25-ую гадавіну Польскай Народнай Рэспублікі. Яны звярнуліся з заклікам да ўсіх працоўных падобным чынам адзначыць знамянальны юбілей.

Адным з першых прадпрыемстваў, якія адказалі на заклік варшаўскіх металургаў, было Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці імя Юльяна Мархлеўскага. Гайнаўскія рабочыя на спецыяльным мітынгу прынялі на сябе каштоўныя абавязацельствы ў гонар 25-ай гадавіны ПНР.

### МІЛІЦЫЯ І ОРМО

У Беластоку адбылася нарада службовага і партыйнага актыву працаўнікоў грамадзянскай міліцыі з усяго ваяводства. Удзельнікі нарады абмеркавалі заданні, якія для міліцыі вынікаюць з пастаноў V з'езда партыі і апошняй ваяводскай канферэнцыі. З праграмным дакладам выступіў ваяводскі камендант МО палкоўнік Бернард Нарэнгоўскі. У нарадзе прынялі ўдзел: I сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч і намеснік міністра ўнутраных спраў, камендант Галоўнай камендатуры МО, генерал Т. Петшак.

На другі дзень пасля міліцыйнай нарады адбылася нарада прадстаўнікоў Добраахвотніцкага рэзерва грамадзянскай міліцыі, гэта значыць, ОРМО. Тут таксама прысутны быў генерал Т. Петшак. Зараз грамадская арганізацыя налічвае на Беласточчыне звыш 10 тысяч членаў, сярод якіх амаль палавіна — гэта сяляне. ОРМО-оўцы дапамагаюць міліцыі ў ахове грамадскага парадку і супольнай дзяржаўнай маёмасці. Найбольш актыўнымі ў мінулым годзе аказаліся армоўскія арганізацыі ў Элцкім, Сувальскім і Сямяціцкім паветах. На жаль, Гайнаўскі павет, які ў першыя пасляваенныя гады славіўся сваімі армоўцамі, зараз заняў па спаборніцтве аж 10-ае месца. Армоўская арганізацыя адзначае 23-ю гадавіну свайго існавання.

### КАНФЕРЭНЦЫІ

22 лютага г.г. адбыліся ў Аўгустове, Бельску, Беластоку, Высока-Мазавецкім, Ломжы, Моньках і Сямяцічах чарговыя павятовыя справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ПАРП.

### У СЛОХАХ

Сельскагаспадарчы гурток у Слохах Аннапольскіх (Сямяціцкі павет), мае 6 машына-трактарных камплектаў. Пасля падлікаў за 1968 год аказалася, што кожны трактар працаваў у сярэднім па 1250 гадзін. Гэта, як на ўмовы Беластоцкага ваяводства, даволі высокі паказальнік. Гурток дабіўся бюджэтнай надбаўкі за 1968 год, якая склала суму 80 тысяч злотых.

### ГАРЦЭРСКІ ЧЫН

Гарцэры з пачатковай школы ў Альмонтах, Беластоцкі павет, грамадскім чынам абсталявалі ледзяную пляцоўку для гульняў на каньках. (вр)




**Niedziela, 2.III.**

8.40 Program dnia. 8.45 „Przypominamy, radzimy”. 9.00 Mistrzostwa świata w biathlonie. (Sztafeta seniorów). 11.00 PKF. 11.15 „Encyklopedia morza” — film. 12.00 Dziennik. 12.15 „Bawcie się z nami. 12.55 „Przemiany”. 13.30 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie w Colorado Springs (Kanada). 14.25 „Spotkanie z pisarzem” — Stefan Flukowski. 14.55 „My — 69” — teleturniej. 15.45 „Ludzie i zdarzenia”. 16.10 Teatr Niedzielny: M. Aimée — „Księżycowe ptaki”. 17.20 Recital Zofii Terne. 18.00 Uroczyste zakończenie Mistrzostw Świata w biathlonie. 18.50 „Polacy na frontach II Wojny Światowej” — film. 19.00 „Wieczorne rozmowy”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Matka i syn” — film fab. USA. 21.05 Wiadomości sportowe. 21.10 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — Austria (Lublijana). 21.45 „Zaproszenie do Montecatini” — film rozr. wł.

**Poniedziałek, 3.III.**

15.10 Program dnia. 15.15 Koncert muzyki klasycznej (Moskwa). 15.45 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.45 „Echo Stadionu”. 18.05 „Kino Krótkich Filmów”. 18.35 „Eureka”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Spotkanie Warszawskie” — program estradowy. 20.55 Teatr TV: M. Krleża — „Sprawa Bakrana”. 21.50 Dziennik. 22.05 Sprawozdanie z Mistrzostw w jeździe figurowej na lodzie.

**Wtorek, 4.III.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — St. Wyspiański — „Noc listopadowa”. 9.35 „Ballada o żołnierzu” — film fab. radz. 11.00 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wiosenna pielęgnacja zbóż”. 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.55 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 „W kręgu oczekujących” — film dokument. bułg. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda piosenki”. 20.35 „Otwarte drzwi”. 21.10 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w jeździe figurowej na lodzie. 22.10 Dziennik. 22.25 „Smok” — nowela film. franc.

**Środa, 5.III.**

10.00 „Obca krew” — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Ciśnienie atmosferyczne”. 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Matematyka w szkole”: „Zmiana jednostki, odległość geometryczna”. 15.30 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam”. 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Tam swoboda czeka na cię” („Ula i świat”). 17.20 „Telekram”. 17.30 „Kiedy trzeba podjąć decyzje”. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Wesele Jamneńskie” — program muzyczny. 18.45 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.00 Film rozrywkowy. 20.30 „Swiatowid”. 21.00 PKF. 21.10 Studio Współczesne: B. Hrabal — „Baron Münchhausen”. ”. 22.35 Dziennik.

**Czwartek, 6.III.**

8.20 „Sygnet z syreną” — film fab. węg. cz. I. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja polskiego Oświecenia. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — B. Prus — „Pałac i rudera”. 11.25 Przerwa, 11.55 Dla szkół: (kl. V)) Historia — „Panowie i poddani”. 12.45 Mechanizacja Rolnictwa: „Urządzenia elektryczne w gospodarstwie rolnym”. 13.25 Program dnia. 13.30 Mistrzostwa świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — Norwegia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.50 Dziennik. 18.00 „Plan Delty” — rep. film. („Z kamerą po świecie”). 18.15 „Bryza”. 18.40 „Twórcy muzyki współczesnej” — Witold Lutosławski. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Sprawozdanie filmowe z meczu hokejowego Polska — Norwegia o Mistrzostwo Świata. 20.35 Sygnet z syreną” — film fab. węg. cz. I. 22.10 Magazyn Medyczny. 22.40 Dziennik.

**Piątek, 7.III.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Silniki odrzutowe”. 10.25 „Ambicja” — film fab. radz. 11.50 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Wybieramy zawód”. 15.30 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino „Ptyś”. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka”. 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań”. 18.00 „Don Kichot” — film (III). 18.25 „Stworzenie świata” — widowisko muzyczno-baletowe. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.00 „Horyzonty”. 20.30 Międzynarodowy Festiwal „Złoty Jeleń” — koncert galowy gwiazd (Braszow — Rumunia). 21.30 „Rozmowy o książkach”. 21.45 „Alarm BC” — program publ. 22.10 Dziennik.

**Sobota, 8.III.**

8.15 „Mąż swojej żony” — film fab. pol. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Włochy”. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Między Wisłą a Pilicą”. 12.25 Przerwa. 13.50 Program dnia. 13.55 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Narciarskich o Memoriał B. Czecha i H. Marusarzówny (Zakopane). 16.05 Program tygodnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów”. 17.45 „Gawędy wilków morskich”. 18.00 Sprawozdanie z Europejskich Igrzysk Halowych w lekkiej atletyce (Belgrad). 19.30 „Dobranoc”. 19.40 Monitor. 20.15 „Kabaret Jeremiego Przybory” — „Mężczyzna do wzięcia” („Wizyty”). 21.10 „Tele-Echo”. 21.40 Sprawozdanie z Mistrzostw Świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — NRD. w przerwie ok. 22.00 Dziennik. 22.45 Wiadomości sportowe. 22.50 „Ja i czterdziestoletni mężczyźni” — film fab. franc.




**Piątek, 28 lutego**

8.00 Dziennik. 8.15 „Cuda przyrody”. 9.40 Mistrzostwa świata w biathlonie. 14.45 Program dnia. 14.50 Dziennik. 15.00 „Echo”. 15.45 „Panorama nowin”. 16.10 Film kukiełkowy dla dzieci. 16.20 Turniej TV. 17.00 szkoła rolnicza. 18.30 „Sztafeta nowin”. 19.15 TV teatr miniatur. 20.15 Koncert liryczny. 21.15 „Tylko fakty”. 21.30 „Wesołe płyty”.

**Sobota, 1 marca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Plus elektryfikacja”. 9.00 Spektakl muzyczny. 11.30 O współczesnym filmie burżuazyjnym. 12.20 „Balet na lodzie”. 12.30 TV teatr dla dzieci. 14.00 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1947”. 14.40 „Wybitni szachiści świata”. 15.00 TV barwna. 16.30 „TV atlas narodów ZSRR”. Armenia. 18.30 Dziennik. 18.45 „Świat socjalizmu”. 19.15 Spektakl TV. 21.00 Koncert artystów operetki kijowskiej. 22.00 „Tylko fakty”.

**Niedziela, 2 marca**

8.00 „Kiosk muzyczny”. 8.30 „III Międzynarodówka Komunistyczna”. 9.00 Dla dzieci. Święto zimy. 9.40 Film dla dzieci. 11.00 „Wiejski czas”. 12.00 „TV punkt agitacyjny”. 12.30 A. Arbuzow. „Tania”. Spektakl teatralny. 15.00 „Czas”. 15.30 TV barwna. 19.10 „Europa, wydarzenia, fakty, problemy”. 19.55 „Szkatułka muzyczna”. 20.10 „Ja — z 60-ch”. 20.55 „Tydzień sportowy”.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 123


## ДЫЯЛАГ ПАЭТА З КРЫТЫКАМ

### 1. ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ

Зразуменне, а затым і магчымасць поўнага эстэтычнага ўспрыняцця сучаснай паэзіі не з'яўляецца заданнем лёгкім для чытача, які да гэтага не падрыхтаваны.

Інтэрпрэтацыя — гэта пошукі ў індывідуальным літаратурным творы нейкай унутранай цэласці, якая стварае, што гэты твор стаецца інтэгральнай адзінкай, і ў гэтай інтэгральнай адзінцы пошукі вартасцей асаблівых і непаўторных. За кожным разам у крытыка паяўляецца здагадка нейкай канчатковай структуры твора. Здагадкі гэтыя залежаць ад вызнавання крытыкам паэтычнага кірунку і могуць быць: лінгвістычныя, псіхааналітычныя, экзістэнцыянальныя, сацыялагічныя і іншыя.

Крытыка, якая стараецца быць аб'ектыўнай, літаратурны твор будзе інтэрпрэтаваць з пункту гледжання ўсіх магчымых «паэтычных школ», таму што літаратурны твор не прадстаўляе сабою трывалай, пастаяннай структуры, якую можна было б раз і назаўсёды інтэрпрэтаваць — загадак да аднаго твора можа быць многа і ў многім яны залежаць ад таго, чаго мы шукаем, што хочам бачыць. Такім чынам даходзім да сцвярджэння: кожная інтэрпрэтацыя заўсёды праблематычная, няпоўная; інакш кажучы — аніводныя пошукі не вычэрпваюць інтэрпрэтацыйных магчымасцей.

Хачу перасцерагчы чытача, каб не разумеў інтэрпрэтацыі, як аналіз твора. Аналіз, інакш апісанне, не выходзіць па-за твор, па-за фактычна даныя ў ім і паслугоўваецца аналітычнымі сказамі, якія могуць быць праўдай або фальшам. Для інтэрпрэтацыі твор з'яўляецца штуршком да выхаду па-за тэкст, і яна ніколі не бывае ні праўдзіва, ні фальшыва, таму што паслугоўваецца сказамі не аналітычнымі і вышаўшы па-за тэкст яна параўноўвае твор да нейкай утаёнай сістэмы адняСення, якая можа выясніць сэнс паасобных элементаў тэксту. Крытык — як бачым — ідзе далей за аўтарам, расшыфроўваючы паэтычны свет: фактычны і магчымы.

Крытык рэканструуе не толькі гіпотэзу цэласці твора, але і кантэкст. А кантэкст мае дваякае значэнне. З аднаго боку — гэта круг гістарычна-літаратурных умоў, з другога — на ўзнікненне літаратурнага твора вялікае значэнне мае культура аўтара, яго густы, уражлівасць на традыцыю і паэтычныя школы і г.д.

У залежнасці ад таго, на што больш глядзіць і падкрэслівае крытыка, бываюць інтэрпрэтацыі — гістарычна-літаратурныя і крытычна-літаратурныя.

Інтэрпрэтацыя, якая паказвае твор як порцыю гісторыі літаратуры, называецца гістарычна-літаратурнай. Паасобны твор з'яўляецца паслядоўнасцю літаратурнага працэсу, калі ён зводзіцца да пэўных літаратурных сістэм, існуючых дагэтуль. Але адначасова — гэта маніфестацыя непаслядоўнасці гэтага працэсу, што і становіць аб індывідуальнасці твора. І крытыка асабліва індывідуальнае, непаўторнае пашукоўвае ў творы.

А чым займаецца крытычна-літаратурная інтэрпрэтацыя? Крытык, узброены ў пастулаты, схільнасці і ідэалы шукае ў творы такія вартасці і значэнні, якія падпадаюць пад яго ідэйна-мастацкую праграму.

Зразумела, што яркага падзелу паміж гэтымі інтэрпрэтацыямі няма: гісторык літаратуры заўсёды глядзіць праз прызму сучаснасці і сваіх густаў.

### 2. АДНО ДЛЯ ЎСІХ

Верш Ул. Гайдука «У полі плача...» кампазіцыйна просты: лірычны герой — сам паэт — жаліцца нейкаму, у творы неназванаму, другу. Вядома, што ён сардэчны і выслухае паэта. «Сардэчны друг» займае ў творы пазіцыю пасіўную: ён слухае тое, што гаворыць яму лірычны герой. Але акрамя таго, што герой сумны, што ён ідзе на шэрыя загоны і жаль яму птушак у пралёце і ападаючае лісцё — больш мы расказаць не можам. Іншыя радкі не паддаюцца прозе, ды і папярэднія застаўляюць чытача задумацца.

У вершы няма фабулы — сюжэт разыгрываецца ўсюды і нідзе, і таму такая фабула мае сэнс агульны, сэнс сімвалічны. Можна затым інтэрпрэтаваць гэты твор у шырокім аспекце.

Восень у прыродзе — гэта пара, калі вырасшы, перацвіўшы і выдаўшы «патомства» розныя жывыя формы прыроды назаўсёды перастаюць быць такімі, якімі былі дагэтуль. Наступае ў шырокім значэнні смерць.

Лірычны герой, напоўнены думкамі аб чалавечым праміванні, ведаючы, што ён часціна прыроды, не бунтуецца супроць яе правоў, а паддаецца яе кругавароту. Як жа прадоўжыць чалавеку сваё існаванне ў прыродзе, у часе? Зразумела, трэба «пасеяць» сябе. Таму ён ідзе на «шэрыя загоны». Уважлівы чытач вывучае, што гэта не проста загоны поля, наша зямля, а нешта іншае, а менавіта — тая штодзённая (таму і «шэрая») праца, дзе кожны чалавек у нейкай ступені адраджаецца і адначасова гіне, як зерне, укінутае ў раллю, гіне само, выдаючы мноства другіх. Нездарма ў творы паяўляецца слова «магіла».

Умірае кожнай восенню лета. У людзей старасці — таксама восень. Хоць мы яшчэ і не ў «асеннім» перыядзе, аднак людзей уражлівых часта наведваючы «асенні сум» неўмаліма вядзе туды ж — на магілу залатога лета.

Першая страфа, узята ў клямру асенняга матыву, замыкаецца кругам, выхаду няма.

А ўсё такі верш не песімістычны, не ўтрыманы ў тоне катастрафізму. Другая страфа пачынаецца станоўчым, амаль стаіцкім сцверджаннем, зразуменнем дыялектыкі прыроды ў імя дыялектыкі прыроды. Мы чакаем на дзень пасля ночы і не заўсёды ўяўляем, што чакаем «сезонаў праміпання». «На ўсё свой час», — гаворыць паэт, усё ў прыродзе ідзе нармальна. І наша смерць ёсць адзнакай прагрэсу ў прыродзе. А чалавеку толькі таму цяжэй і сумней жыць, бо ён свядомы свайго праміпання, сваёй «зямной» гісторыі. Чалавек спагадае іншым жывым формам прыроды на столькі, на колькі яны — несвядомыя — нагадваюць чалавеку аб пастаянным абмене ў прыродзе. І прызнакі іх нетрываласці чалавек пераносіць на сабе (параўнанне з ападаючымі лісцьмі ці птушкамі ў пралёце.

На пачатку верша стаіць адзіны сказ, які выразна выдзяляецца ў тэксце. Калі мы сказалі, што «загоны», на якіх чалавек «сее» сябе, гэта яго праца, то поле — у такім аспекце — будзе часам, у якім мы жывем, а вецер — чалавекам. Як мота да верша паэт з самага пачатку канстатуе: чалавек жыве так нетрывала і так каротка, як вецер. Слова «валачобнік» — паэтычная акраса, канкрэтызуючая вецер у духу сялянскай філасофіі.

А жыццё чалавека мае сэнс, таму што яно падпарадкавана аднаму для ўсіх праву прыроды — нетрываласці.

**І. Чыквін.**



## • БУСЛЫ •

Дзе буслы водзяцца
гром не ўдарыць.
(народная прыказка)

Жыццё мяняецца няспынна,
Не верыць прыказцы народ.
На пуні, у гняздзе буслінным,
Паставілі громаадвод.

І правялі балот асушку,
Як быццам бы буслам на здзек.
З балотам жабы — весялушкі
Свой аджылі кароткі век.

Стаяць буслы ў нямой журбоце,
Цяжка даводзіцца ў жыцці.
Хоць вешайся на громудроце
Або у вырай зноў ляці.

## ★ РУЖЫ ★

Зацвіў стол духмяным букетам,
Крывавяць ружы ў вазоне.
Яны развіталіся з летам,
Чакае іх толькі агонія.

Людскі зрок нацешыўся мала
Жыццём нетрывалым і кволым.
Пялёсткі згарнуліся вяла,
Як слёзы павіслі дадолу.

ВІКТАР ШВЕД

## • ВЯСНА ў ЛЕСЕ •

Вандруе па лесе вясна
у сонечнай сукні.
Яна
чарадзейную палачку мае.
Вось шапнула дрэўцам: «пара»!,
махнула палачкай раз —
і на дрэўцах лісточкі ўжо ззяюць.
Махнула яшчэ два разы —
зялёным стаў лес адразу.
І птушкі запелі наўкола.
І птушкі запелі наўкола.
І блішчаць матылькі дзе-нідзе...
А вясна з усмешкай ідзе
і кветачкі сыпле з прыполу.

* ✲ *

Кветкі — галоўкі нізка над партамі.
Ціша.
Толькі пер'і скрыпяць працавіта.
Хвіліна ўрачыстая:
Упарта
пішацца першая літара.
Між радамі парт —
гароднік між градкамі,
настаўніца.
Маршчыны.
Іней у валасах.
Але на твары
маладосць цвіце,
краса.
З усмешкай крочыць,
наглядае за парадкам.

АЛЕСЬ СВІСЁК



* ✲ *

У полі плача вецер-валачобнік.
Асенні сум, мой друг сардэчны,
Вядзе мяне на шэрыя загоны,
Як на магілу залатога лета.

На ўсё свой час, сезонны праміпання
Ідуць парадкам, быццам дзень па ночы,
А мне ёсць жаль лістоў, як ападаюць,
І птушак, што знікаюць у пралёце.

Ул. Гайдук

Яша Бурш

## ★ Патрэба выбару ★

Умеркаванасць
не азначае памірэння
кантрастаў
на бок матавасці
гэта хвіля прычын
разумнай селекцыі
з улоння выбару
пад фанфары
асабістай болі.

## ★ Самотнік ★

Чалавек
не разбіў вуснаў
аб зуб самотніка
самотнік
спатыкнуўся
аб нагу прымірэння
накульгваючы
цераз жыццё
без дапаможнай рукі

## Людзі БГКТ

# Сярод сваіх людзей



Будучы вучнем пачатковай школы Міша Тэлешэўскі з Рэпіскаў быў ужо адным з лепшых карэспандэнтаў пачаткова «Зоркі», а пасля «Нівы». Сваімі друкаванымі інфармацыямі намагаўся ліквідаваць тыя ці іншыя недахопы нашага штодзённага жыцця. У сваёй школе ён ахвотна хіліўся да грамадскай працы ў гарцэрскай арганізацыі. А як стаў вучнем беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы, грамадскай працы значна дабавілася. Ён быў старшынёй школьнага гуртка Польска-савецкай дружбы, а калі быў ужо ў старэйшых класах ліцэя, быў членам праўлення гуртка Саюза сялянскай моладзі і праяўляў вялікае зацікаўленне да дзейнасці Беларускага таварыства.

Міша Тэлешэўскі закончыў беларускі ліцэй і пачаў працаваць настаўнікам пачатковай школы ў Дашах, а цяпер у Барысаўцы. Тут у сваіх людзях, па-суседску з Рэпіскамі, аддае ён свае веды дзецям, а таксама старэйшым. З'яўляецца членам ПАРП і выкладчыкам партыйнай адукацыі ў Рэпісках. Прыходзіцца яму працаваць і выясняць палітыку нашай партыі сваім аднавяскоўцам.

Яго яшчэ кароткая біяграфія. Мала ён яшчэ пражыў. Але трэба сказаць, што многа ўжо ўлажыў грамадскай працы ў дзейнасць ЗМВ, партыйнай арганізацыі і, вядома, БГКТ. Як мала хто, Міша часта выязджае ў суседнія і даволі далёкія вёскі Гайнаўскага павета, абслугоўвае гурткі БГКТ, дапамагае ім палепшыць працу. Шмат гурткоў ён сам арганізаваў і з імі ўтрымоўвае кантакт. Праўленне Гайнаўскага аддзела БГКТ даручае яму шмат заданняў, бо ведае, што будуць яны выкананы добра і тэрмінова. (мх)

# Багатая вучнёўская спулдзельня

Вельмі добрымі вынікамі працы можа пахваліцца вучнёўская спулдзельня пры пачатковай школе **ў Гарадку** Беластоцкага павета. Членаў спулдзельні ёсць 121 вучань. Тавараабарот ад 1 верасня 1968 года па 31 студзеня 1969 года асягнуў **28.144,65 зл.** г.зн., што на такі лік куплена і прадана тавараў. Вучнёўская крама мае ўсе патрэбныя пісьмовыя прыборы, а таксама цукеркі і пячэнне. У апошнім часе школьная спулдзельня сарганізавала збор макулятуры. У планах прадбачваецца продаж булачак, пакуль што аднак ёсць пэўныя цяжкасці з пякарняй. На ўвагу заслугоўвае і той факт, што дагэтуль спулдзельня не мела ніякага манка.

Асноўнай справай аднак не з'яўляецца фінансавая дзейнасць. Найважнейшай ёсць выхаваўчая праца. Вучнёўская спулдзельня мае сваю раду надзорчую, праўленне і рэвізійную камісію. Тут працуюць вучні выконваючы давераныя ім функцыі так, як у нармальных спулдзельнях для дарослых. Кантакт, які існуе між школьнай спулдзельняй і мясцовым ГС-ам, не парываецца ніколі. Усе абсальвенты VIII класаў пакуль выйдуць са школы ўступаюць у члены ГС. Не менш важнай справай з'яўляецца і тое, што вучні не мусяць перабягаць вуліцу, каб купіць неабходную рэч.

У канцы трэба сказаць, што вельмі многа працы і сэрца ўкладае ў гэтую працу апякун спулдзельні настаўнік **Павел Кандрусік.** (ак)

Пачатак на стар. 1

# БОЛЬШ ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦІ

Варта калі-некалі арганізаваць хоць кароткія мерапрыемствы прысвечаныя праігрыванню пласцінак. Ёсць у нас пласцінка з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага, але да гэтага часу нашы члены не слухалі прыгожых яго беларускіх песень.

Безумоўна, успомненыя вышэй справы і неўспомненыя можна наладзіць, можна і трэба шукаць лепшых і больш цікавых форм культурна-асветнай працы.

Але нельга знайсці адказу на наступнае пытанне — чаму наш аддзел так мала мае інтэлігенцыі, чаму не жадаюць быць членамі БГКТ працаўнікі многіх устаноў. У чым жа справа? А мо бокам мы ідзем у сваёй дзейнасці? Мы амаль не маем у сваіх радах лекараў, працаўнікоў трох вышэйшых школ. Амаль не маем інжынераў, тэхнікаў. Значыць БГКТ у Беластоку не папулярнае. Сарамлівай справай з'яўляецца ў Беластоку падпіска «Нівы». Чаму? Цяжка на гэта адказаць. Але ёсць шмат беларусаў ва многіх установах і прадпрыемствах, калі з імі пагаворыш, выдаецца, што для іх неабыякавая праца Беларускага таварыства. Аднак да працы ў БГКТ іх не нагаворыш. А менавіта гэтыя людзі напэўна маглі б дапамагчы ўзбагаціць формы працы гарадскога аддзела, маглі б многа зрабіць карыснага. Вось такія факты прымушаюць задумвацца многіх, і напэўна маюць некарысны ўплыў на рост БГКТ у горадзе Беластоку.

**Міхась Хмялеўскі**

З ПІСЬМА САВЕЦКАГА СЯБРА

# На радзіме Манюшкі

«Апошнім часам я ездзіў за Мінск, у Чэрвеньскі раён, у в. Убель. Мяркую, што Табе гэтая назва вядома, бо тут нарадзіўся Станіслаў Манюшка. Мяне накіроўвалі азнаёміцца з матэрыяламі, якія сабралі вучні мясцовай школы пра вялікага кампазітара. Стаіць старая таполя — сучасніца С. Манюшкі, помнік. У Убелі жывуць некалькі чалавек з прозвішчам Манюшка. Настаўнікі мяркуюць, што гэта нейкія далёкія родзічы.

Школьнікі шмат сабралі рознага матэрыялу, перапісваюцца з польскім музыказнаўцам Мар'янам Фуксам, а таксама з музычным музеем г. Масквы (імя Глінкі).

У маі будзе 150-годдзе з дня нараджэння кампазітара. Так, што Беларусь рыхтуецца адзначыць гэтую дату. Настаўнікі і вучні васьмігодкі стараюцца адчыніць мемарыяльны музей С. Манюшкі. Гэта будзе свята польска-савецкай дружбы». (ся)




### В'ЕТНАМ

**Madeleine Riffaud: Wśród wietnamskich partyzantów. Tłum. z franc. D. Planer. W-wa 1968 Iskry. ss 203 zł 10,00**

Аўтар была ў В'етнаме ў 1964—65 гадах. Бачыла вайну... Але сама яшчэ раней пражыла ў час вайны ў Францыі гітлераўскую акупацыю, змагалася ў французскім руху супраціўлення, прайшла катаванні СС і асуджэнне на смерць. А цяпер убачыла новую вайну. Усё гэта мела ўплыў на моцную кніжку пра В'етнам.

**Narodowy Front Wyzwolenia Wietnamu Południowego, Warszawa 1968 KiW ss 155 zł 15,00**

А гэта ўжо кніжка дакументаў В'етнама, апублікаваных самым Фронтам вызвалення Паўднёвага В'етнама. Пазнаем з яе праграму Фронту вызвалення, людзей, якія за вызваленне змагаюцца.

### СВЕТ

**Swiat w przekroju. 1968. Autorzy: Andrzej Abraszewski i in. Herby i flagi państwowe oprac. A. Bonasewicz. Mapy wyk. L. Baranowski. W-wa 1968 WP ss 800 zł 100,00**

Гэта вельмі каштоўнае выдавецтва. Першы яго том выйшаў у 1959 годзе і з таго часу выходзіць кожны год. Гэта альманах актуальнай інфармацыі аб свеце, паасобных краінах, культурным і гаспадарчым жыцці, палітыцы, навукі.

### ЦЫГАНЫ

**Zdzisław Kazimierczuk. Pożegnanie taboru. Lublin 1968 WLub ss 174 zł 16,00**

Жывуць блізка нас, а ці многа ведаем пра іх? Нават з іх мовы ані слова. Жыццё ў вандроўным цыганскім табары — тэма кніжкі.

### ПАДАРОЖЖА

**Krzysztof Baranowski. Kapitan Kuk. W-wa Iskry ss 263 (seria Naokoło świata) zł 24,00**

Падарожжа «Смелага» вакол свету працягвалася 15 месяцаў. Марская дарога ішла з Польшчы праз канал Ла-Манш, Атлантычны акіян, у Рыо-дэ-Жанейра, далей «Смелы» аплыў Паўднёвую Амерыку, праплыў Панамскі канал, побач паўвострава Фларыды і праз Атлантычны акіян вярнуўся дамоў. Многа бачыла пяць асоб «Смелага» і ў цікавы спосаб адзін з іх расказвае пра падарожжа.

### ІНДАНЕЗІЯ

**Ryszard Frelek. Gorąca noc. W-wa 1968 MON ss 287 cena zł 12,00**

Краіна тысячы астравоў. Казачныя краявіды. Прыгожыя, высокія людзі. І... трагічныя лёсы, хоць бы прыпомніць Інданезію 1965 года, крывавую нагонку на Камуністычную партыю Інданезіі. Прапануемая кніжка не належыць да дакументальных, але дакументы былі выкарыстаны аўтарам.

### МАСТАЦТВА

**Michał W. Ałpatow. Historia sztuki. 1. Starożytność i średniowiecze. Jęz. oryg.ros. Tłum. z niem. M. Kurecka i W. Wirpsza. W-wa 1968 Arkady, ss 317 tabl. 240 zł 250,00**

Заўсёды заахвочваем браць у рукі і хоць бы пераглядзець кніжкі такія, як гэтую. Такія кніжкі трэба, як падручнік, вывучаць, трэба з імі жыць. Кніжка гэтая знаёміць якраз з галіной, мала ў нас вядомай. (вл)




**У новым другім нумары месячніка «Кантрасты» знаходзім матэрыялы пра Агульнапольскі фестываль музыкі і паэзіі, які нядаўна закончыўся ў Беластоку, крыху пра гісторыю і сённяшні дзень вёскі Крывая. Пра цікавы тэатр лялек «Свершч». Пра рэгіянальны рух у Беластоцкім ваяводстве піша Крыстына Маршалэк, народнасць, якая выпрабляецца з саломы, хваліць З. Цясельскі, цікавы фотарэпартаж маем у нумары пра беластоцкія «вежоўцы» — шматпавярховыя дамы, якія на здымках выглядаюць прыгажэй, чым у сапраўднасці.**

**У літаратурнай частцы ёсць вершы, апавяданні, сярод фельетонаў цікавы пра назвы некаторых вёсак. Расце пірамідка кніжак — твораў беластоцкіх паэтаў — 7 томікаў, пра беластоцкіх лірыкаў піша адзін з іх З. Слёнчка. Для шукальнікаў сенсацыі будзе цікавым «Таямніца малога доміка» ў Беластоку перад вайной. У малым доміку рабіліся фальшывыя грошы. У дробных рубрыках знойдзем адказы «будучым» пісьменнікам, рэдакцыйную пошту і песню.** (вл)

## Наш Каляндар

# МІКОЛА ЛУПСЯКОЎ

50 год таму назад, 4 сакавіка 1919 г. у Маскве нарадзіўся вядомы беларускі празаік Мікола Лупсякоў. У 1921 г. яго бацькі вярнуліся ў Беларусь. У 1941 г. М. Лупсякоў скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Удзельнічаў у баях супраць фашысцкіх захопнікаў. У 1943 годзе быў цяжка паранены і дэмабілізаваны. Першае апавяданне надрукаваў у 1936 годзе, але сістэматычнай творчай працай заняўся пасля вайны. З друку выйшла некалькі зборнікаў яго апавяданняў: «Першая атака» (1946), «Мост» і «Апавяданні» (1947), «Разведчыкі» (1949), «Дружба» (1952), «Чырвоны бераг» (1954), «Паядынак» і «Дняпроўская чайка» (1957), «У вераб'іную ноч» (1958), «Ля пераправы» (1959), «Прырэчча» (1961), «Выбраныя творы» (1968). Увазе чытачоў прапануем апавяданне, напісанае пісьменнікам у 1952 годзе.

### ДА СВАІХ

Спачатку ён убачыў буйныя зоры. Проста над ім, у вышыні цёмна-сіняга неба, свяцілі яны. Зоры мігацелі, і часам каторая з іх падала, пакідаючы за сабою залацістую дугу. Так гараць і тухнуць ракеты... І Ігнат Паскрабацкі раптам успомніў усе жахлівыя падзеі мінулага дня. Учора, ужо за поўдзень, ён сядзеў у акопчыку з супрацьтанкавым ружжом, калі пачалася гэтая контратака. Ён добра памятаў, што ў той час над полем панавала вялікая цішыня, з неба свяціла сонца і вакол сінімі агнямі іскрыўся зляжалы снег...

Лязгат гусеніц парваў гэтую цішыню, вывеў людзей з супакою. Паўзлі танкі. Іх было шмат, бадай дваццаць. У Ігната заняло дух, яму зрабілася горача, і ён шпаркім рухам расшпіліў каўнер шыняля... А далей усё адбывалася быццам у сне. Ён бачыў, як смяртэльна ранены паміраў камандзір узвода, як нехта абвязаў сябе гранатамі і папоўз наперад, бачыў, як гарэў танк і з яго выскачылі двое і забегалі, збіваючы з сябе полымя.

Ён жа страляў. Яго ружжо здавалася яму ў тыя хвіліны самым найвялікшым сябрам. Быццам у ім было ўсё нескладанае Ігнатава жыццё, і таму так моцна ён за яго трымаўся. Потым было забыццё і зноў абуджэнне, і кроў, і тое ж ружжо ў руках.

Ігнат паварушыўся і ледзьве стрымаў стогн. Цяпер ён ляжаў нерухома і ўсё пазіраў у неба — такое неба заўсёды хвалявала яго. А зоры ўсё свяцілі... І ў другі раз ад пачатку да канца ён успомніў мінулы дзень, успомніў сяброў. Яму стала шкада іх, чамусьці крыўдна.

Затым ён раптам схамянуўся, паглядзеў управа і ўлева ад сябе і толькі тут заўважыў, што ляжыць ля той самай траншэі, з якой учора ён страляў, і што поплеч з ім і тое ж супрацьтанкавае ружжо. Вось пасля гэтага яго і ахапіла сапраўдная радасць.

— Жывы, — сказаў ён сам сабе і пачуў ціхі шэпт, быццам гэта быў не яго, Ігнатаў, голас.

Ён не думаў цяпер, чаму ў траншэі нікога няма, чаму ён адзін пакінуты ў полі, — ён забыўся на гэта. Ён толькі ўспомніў, што далей у нізіне ёсць хацінка і што там яшчэ жывуць гаспадары. Ігнат зрабіў яшчэ адзін рух і цяпер ужо не стрымаў стогну...

Ногі не падначальваліся яму, ён нават дрэнна іх адчуваў. Але рукамі валодаў добра. Ігнат сцяў зубы і папоўз. Іншы раз яму хацелася крычаць ад болю. Потым ён вырашыў, што лепей праляжаць да світання, пакуль выпадковы салдат не натрапіць на яго. Але тут чалавек успомніў пустую траншэю і запытаўся сам у сябе: чаму яго не падабралі санітары? Ліхаманкава перабіраючы рукамі, ён споўз у нізіну і апынуўся перад той хацінкай. Ён добра чуў, як на двары коні жавалі сена, як яны тупалі, як ціха звінелі цуглі. У хаціне не спалі — у акне было святло. Гэтае святло шмат аб чым напомніла раненаму. Ён успомніў і сваю хату, і цёплую печ, і сваю сям'ю... Хацінка гэта была цяпер яго паратункам, і ён ужо быў папоўз на двор, як у другі раз падумаў пра пустую траншэю. І пытанне — чаму яго не падабралі санітары? — зноў паўстала перад ім. Тады ён запоўз у палісаднік, выцягнуў угору рукі і схапіўся імі за вушак. Ён не ведаў, адкуль у яго з'явілася сіла, але здолеў падцягнуцца на руках і прытуліў свой твар да халоднай шыбы. Яна ўжо абмерзла. Ён пачаў на яе дыхаць. Мінула некалькі доўтіх хвілін, а ён усё трымаўся за вушак, як трымаўся ўчора за тое ружжо. Нарэшце лёд растаў. Нейкія постаці мільганулі перад яго вачыма, і вось Ігнат ужо добра мог разглядзець людзей.

А разам з тым у яго зайшлося сэрца: у хаце былі гітлераўцы. Абяссілены, ён

# „Светапогляд адзінкі“ — Ул. Паўлючука

Маем прыемнасць адзначыць, што на старонках квартальніка «Studia Socjologiczne» № 3—4 ад 1968 г., які выдае Інстытут філасофіі і сацыялогіі Польскай Акадэміі навук, паявіўся ўжо другі артыкул беластоцкага сацыёлага і журналіста «Нівы» Уладзіміра Паўлючука. Артыкул мае загаловак «Светапогляд адзінкі ў перыяд распаду традыцыйнай тэрытарыяльнай грамадскасці».

У навуковай літаратуры ёсць шэраг падзелаў паасобных грамадскасцей і людскіх культур. Найчасцей сустракаецца падзел дыхатамічны, які з аднаго боку, так ці інакш, падагульняе больш ці менш істотныя рысы племенных і перадіндустрыяльных вясковых грамадскасцей, а з другога боку рысы урбанізаваных грамадскасцей. Для сацыёлагаў пераход ад грамадскасці часоў феадальных да грамадскасці сучаснай эпохі, гарадской, лічыцца як вельмі важны ў гісторыі чалавецтва. Іменна ва ўспомненым артыкуле Ул. Паўлючук займаецца пераходам гэтага парога, распадам гэтай цэласці, якую аўтар артыкула схільны назваць народнай, першабытнай, сакральнай і т.п.

Гэтай тэматыкай займаецца шмат сацыёлагаў на свеце. Доследы ў асноўным праводзяцца ў слаба развітых краінах Афрыкі і Азіі, дзе лёгка назіраць сутыкненне культур часта яшчэ пляменнай з сучаснай. Паўлючук сцвярджае, што гэты працэс пераходу ад замкнутай, стабільнай грамадскасці да дынамічнага грамадства індустрыяльнай эпохі, можам сачыць на прыкладах перамен польскай вёскі на працягу апошняга паўстагоддзя, у найбольш адсталых кутках краіны. Свае зацікаўленні аўтар канцэнтруе «на ўсходнепадляшскіх», «рускіх» вясковых грамадскасцях. Іменна «традыцыйная вясковая грамадскасць» гэта і ёсць грамадскасць перадіндустрыяльная.

Аўтар у артыкуле акрэслівае асноўныя рысы традыцыйнай грамадскасці з пункту гледжання яе светапогляду. Адной з асноўных з'яўляецца грамадская супольнасць, якая характарызуецца поўнымі татальнымі сведамасцявымі сувязямі. Іншай рысай ёсць факт, што ўсе члены традыцыйнай грамадскасці належаць да адной культуры: карыстаюцца адной мовай, карыстаюцца аднолькавай традыцыяй, вераць у адны і тыя ж святасці, шануюць тыя ж самыя аўтарытэты. Паасобныя прадукты культуры ўзаемна гарманізаваныя, а таксама выконваюць розныя функцыі — гэта чарговая рыса традыцыйнай грамадскасці. Некаторыя вучоныя звяртаюць увагу на сувязі ўсіх культурных элементаў (тварэнняў) з рэлігіяй. Паўлючук звяртае ўвагу на факт, што ў прымітыўнай і народнай рэлігійнасці ёсць многа практычнага, утылітарнага зместу. «Барацьба» сярпа з касою гэта адзін з вобразаў супраціўлення, якое ставіць зменам паасобных элементаў культуры традыцыйная грамадскасць. «Праца касою аддзяляе акт прадукцыйны ад усялякіх іншых значэнняў. Разам з ёю гіне жніўны фальклор і абрадавасць», — піша Ул. Паўлючук.

Артыкул з'яўляецца ўступам да доследаў, якія аўтар праводзіць на Беласточчыне сярод «праваслаўных вясковых грамадскасцей усходняй Беласточчыны, якія афіцыйна акрэсліваюцца як беларускія». Сярод усходнепадляшскіх грамадскасцей, у мінулым наогул мала дынамічных, асабліва кансерватыўнымі былі праваслаўныя грамадскасці. На колькі адсталасць падляшскай вёскі мае простае выясненне ў недаразвіцці ўрбанізацыйных працэсаў і слабой сетцы камунікацыйных шляхоў, на толькі спецыфічнае для праваслаўных грамадскасцей звальненне тэмпа культуровых перамен не знайшло месца ў ніводнай з апрацовак.

Да канца XIX стагоддзя ўсходнепадляшская праваслаўная вёска захавала рысы стабільнай грамадскасці. Вёскі гэтыя паўставалі даволі позна, бо ў XV і XVI стагоддзях, аднак сістэма гаспадаравання і камплекты прылад працы аставаліся амаль без змен да канца XIX стагоддзя (аралася валамі, церасталосіца, саха, воз на дзеравяных восях, плеценая барана і г.д.). Характэрным ёсць, што тыя вёскі, якія аставаліся амаль на нязменнай культуровай форме да I сусветнай вайны, у міжваенны перыяд прайшлі этап вельмі дынамічных, бурных і ўсебаковых змен. «Ёсць гэта на толькі цікавае, — піша Ул. Паўлючук, — што гэтага факту нельга выясніць эканамічнымі ўмовамі, як, напрыклад, магчымасцю кантактаў з капіталістычным рынкам. Спецыфіка гэтых перамен заключаецца ў тым, што гэтыя грамадскасці ў міжваенны перыяд не ўвайшлі ў круг уплываў панадлакальнай, агульнанацыянальнай ідэалогіі і культуры». Дзеля гэтага ў многіх галінах не знаходзілі яны гатовых узораў і былі вымушаныя да новых патрэб. Датычыць гэта м. інш. рэлігійнай галіны, дзе паўставалі многія рэлігійныя секты.

Астаецца нам чакаць на выніку доследаў Ул. Паўлючука аб блізкіх і родных нам землях.

А. Карпюк



НЕЗАМЯРЗАЮЧАЯ КРЫНІЦА. У вёсцы Радзішэва ў Сямяціцкім павеце ёсць крыніца, якая не замярзае ў наймацнейшыя маразы. Наш здымак зроблены пры тэмпературы — 18°С. Тэмпература вады ў крыніцы ў той час была +9°С.

Фота Р. Сенька

упаў у снег. У першы момант ні пра што не думаў. Хацелася толькі ляжаць і не рухацца. Затым прыйшла горкая здагадка, што немцы захапілі ўзгорак. А тады... тады Ігнат успомніў сваю пасеку. Невядома, чаму іменна гэтая пасека прыпомнілася чалавеку ў такую хвіліну жыцця. Можа, гэта было звычайнае забыццё, але быў такі момант, калі, здавалася, Ігнат ішоў сваім садам. Ён нават чуў, як гулі ў вуллях раі, і адчуваў, што дыхае паветрам, напоеным водарам... Гэта было яго жыццё, і ніхто ніколі не меў такога права — адабраць яго ад Ігната. Яно клікала яго да сябе, у ім Ігнат бачыў столькі шчасця, што, лежачы ля гэтай хаціны, ён ціха, як дзіця, заплакаў.

Тады ім авалодала ўпартая думка — дабрацца да сваіх, чаго б ні каштавала, а дабрацца. І вось ён папоўз прэч ад гэтай хаты ў той бок, куды павінны былі адступіць свае.

Зіма быццам здзекавалася над ім. Аднекуль з захаду падзьмуў вецер, і праз паўгадзіны разгулялася такая завіруха, што вакол нічога не было бачна. Хмары снегу насіліся над зямлёй, як шалёны, скавытаў і плакаў вецер, і снежны пыл біў у твар. Ігнат дастаў з супрацьгазавай сумкі бінт і перавязаў, як мог, свае раны. Пасля ён поўз, часам трацiў прытомнасць, і тады перад вачыма плылі зялёныя агні. Але болю ён ужо не адчуваў. Урэшце, знясілены, ён ляжаў нерухома. Снег замятаў яго. А Ігнату здавалася, што ён дома, што побач з ім яго жонка і дзеці і старэнькая маці. Ён з імі нават размаўляў, але ніяк не мог зразумець, аб чым яны яму гавораць. Сон ужо змыкаў вейкі. Раптам нешта халоднае пацякло за каўнер, Ігнат схамянуўся і зноў папоўз...

І вось наперадзе ён ужо чуў грукат, ад якога трэслася зямля. Там ішоў бой, там былі свае, да якіх ён так імкнуўся. Грукат гэты дапамагаў яму адганяць сон, ён змяншаў пакуты, ён клікаў. Пасля Ігнат не мог разабрацца, дзе ён, і ноч зараз ці ўжо дзень. Але ён выразна яшчэ памятаў, што бачыў каля сябе двух немцаў. Гэта была яго смерць, і чакаючы яе, Ігнат заплюшчыў вочы. Яму зрабілася жудасна, і ўпершыню ён па-сапраўднаму адчуў і боль і холад. Ён прытварыўся нежывым і, сцяўшы зубы, маўчаў увесь час, пакуль з яго сцягвалі валёнкі і шынель...

Дзьмуў вецер. Снег замятаў чалавечы след. Паскрабацкі ўжо нічога не чуў і не бачыў, але ў адной кашулі, з акрываўленымі анучамі на нагах, ён усё яшчэ поўз... Такім яго і ўбачылі нашы танкісты, што крыху пазней зноў выбівалі немцаў з гэтых мясцін.

Мікола Лупсякоў

# Рыбалаўская спулдзельня здароўя

У 1965 годзе шмат было гутаркі аб тым, што ў Рыбалах пабудуецца пункт аховы здароўя, што будуць лекары і медсёстры, што ўсе вёскі ў рыбалаўскай грамадзе будуць карыстацца медыцынскай дапамогай. Людзі дэкларавалі ўклады грамадскай працы і жадалі, каб мары адносна пабудовы пункта аховы здароўя як найхутчэй ажыццявіліся.

Каб прыспешыць прыняццё пастановы ўлад аб пабудове пункта аховы здароўя, у Рыбалах пачала арганізавацца спулдзельня здароўя. Хутка знайшлося патрэбнае мінімум членаў (305), якія ўнеслі свае членскія грашовыя ўклады. Пасля знайшлося памяшканне, і так пачала працу рыбалаўская спулдзельня здароўя. Да працы ў Рыбалы даязджаюць з Беластока лекар Анджэй Семянко і зубны лекар — Адам Васілеўскі. Пачала працаваць у адной асобе рэгістратар і бухгалтар, а таксама медсястра. Пачалі прыязджаць да лекараў людзі і хваліць, як гэта цяпер добра стала з медыцынскай дапамогай. Ішоў час. Лекары пачалі ўсё больш і больш скарочваць гадзіны працы. А цяпер людзі там наракаюць, што цяжка застаць лекараў і што трэба ехаць да лекараў у Беласток або ў Бельск. На гэту іх нездысцыплінаванасць звярталі ўвагу члены надзаруючай рады, а найбольш старшыня гэтай рады Лёня Харытанюк. Звяртаўся ён з гэтым да ўлад у павеце, але што з гэтага. Атрымоўвае ад іх адказ менш-больш такі: «Калі вам не падабаюцца лекары дык звальняйце». А ў ПЗГС, бо гэта ўстанова кантралюе лекарскую спулдзельню, Лёню Харытанюку сказалі так: «З лекарамі цяжка, не хапае іх. Як звольніце, дык зусім не будзеце мець».

І так, гэтыя лекары далей вельмі моцна парушаюць дысцыпліну працы, вельмі мала працуюць. А ўсё ж атрымоўваюць яны даволі высокую зарплату. Адзін лекар больш 2000 зл, а другі больш 3000 зл. Як аднаму так і другому лекару апрача гэтага рыбалаўская лекарская спулдзельня даплочвае па 1000 зл. І гэтая і іншая рацыі і прэтэнзіі людзей да лекараў поўнасцю абгрунтаваны. Дрэнна і з тым, што аб пабудове пункта аховы здароўя ў Рыбалах цяпер зусім мала гаворыцца.

М. Сваяк

# НОВЫЯ ЗАДАННІ

Галоўнай тэмай апошняй сесіі Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы былі справы гаспадарчага плана і бюджэту на 1969 год.

Дыскусія канцэнтравалася вакол планаў як найбольш рацыянальнага і поўнага выкарыстання сродкаў, прызначаных на далейшае развіццё прамысловасці, культуры, асветы, аховы здароўя, сельскай гаспадаркі і забеспячэння галоўных патрэб жыхароў павета.

Гаспадарчы план прадугледжвае, што апрацоўваемая плошча сельскагаспадарчых угоддзяў складзе 79.500 га, у тым ліку пад пасевамі будзе 52 500 га. Структура пасеваў павінна выглядаць так: збожжа — 32.000 га, бульбы — 10.300 га, кармавыя — 6.300. Сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур павінен скласці 16 цэнтнераў, а бульбы — 170 цэнтнераў. Узрасце пагалоўе буйнай рагатай жывёлы на 2.920 галоў, а свіней — на 3.280 галоў. Падлічана, што надоі малака ўзрастуць з 29,7 млн. у 1968 г. да 31,1 млн. літраў у 1969 г.

Павінна павялічыцца ўгнойванне мінеральнымі ўгнаеннямі і вапнаванне глебы. План выкарыстання ўгнаенняў у 1969 годзе прадугледжвае 4900 тон NPK, што ў параўнанні з мінулым годам дае ўзрост 35%. Выкарыстанне вапны павінна скласці 3600 тон, пры 1514 тонах у 1968 годзе.

Агульны бюджэт Гайнаўскага павета на 1969 год замыкаецца сумай 106.216 тыс. злотых. У параўнанні з 1968 годам ён большы на 26 млн. злотых. З гэтай сумы на сельскую гаспадарку прызначаны 24 млн. 642 тыс. злотых, у тым ліку 12 млн. зл. пойдзе на меліярацыю. У рамах гэтых работ будзе праведзены дрэнаж 693 га ворнай зямлі, поўнае загаспадараванне лугоў і выганаў на 249 га. Коштам 9 млн. 600 тыс. зл. будзе працягвацца праца ў ПГР-ах Кленікі і Новаберазова. Разбудова і мадэрнізацыя ПОМ-аў у Кляшчэлях і Нарве будуць каштаваць 1 млн. 949 тыс. зл.

Найважнейшым камунальным капіталаўкладаннем Гайнаўкі будзе будова водаправодна-каналізацыйнай сеткі, гарадской ачышчальні сцёкаў, базы гарадскога азелянення, вялікага базару і базы МПГК. Сума, прызначаная на гэтыя будовы, складзе 7,5 млн. зл. У рамах капіталаўкладанняў службы аховы здароўя закончаны будуць будовы акруговай амбулаторыі гарадскіх дзіцячых ясляў у Гайнаўцы і вясковага пункту аховы здароўя ў Дубічах Царкоўных. 12 млн. зл. прызначана на далейшае пашырэнне керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове.

У Гайнаўцы будзе аддадзены ў карыстанне будынак Тэхнікума драўнінай прамысловасці і далей будзе весціся будова новага будынка для падставовай школы.

Трэба дадаць, што гэты аб'ект будзе мець першую ў горадзе адпаведную спартыўную залу.

План прадугледжвае таксама правядзенне рамонтаў жыллёвых памяшканняў у Гайнаўцы, Нараўцы і Белавежы — 15 будынкаў. У Белавежы, Нарве, Нараўцы, Кляшчэлях і Чаромусе будзе пракладзена ў суме 4 тыс. 800 м² новых тратуараў і 4 тыс. м² брукаваных вуліц. Апрача таго, грамадскім чынам будуць закончаны і аддадзены ў карыстанне такія аб'екты, як падставовыя школы ў Моры і ў Горным, мястэчка дарожнага руху і дом рэзервістаў у Гайнаўцы, клуб-кавярня ў Дубінах і стражацкая раміза ў Чыжах. Сродкі, прызначаныя на цэнтральнае будаўніцтва, у суме 45 млн. зл. дазволяць аддаць у эксплуатацыю мэблевую фабрыку, якая дасць 600 новых месц працы, у тым ліку 300 месц для жанчын, прадпрыемства аховы працы — для 250 чалавек, а таксама пачаць будову фабрыкі стружкавых пліт і пашырыць Фабрыку сухой дэстыляцыі драўніны і Гайнаўскі завод лясных машын.

Поўная і правільная рэалізацыя накрэсленых заданняў на 1969 год будзе гарантыяй далейшага гаспадарчага развіцця павета, прынясе спадзяваныя эканамічныя і грамадскія эфекты.

К. Ляшчынскі

## Медыцына

### РАК МОЖНА ПАПЯРЭДЗІЦЬ

У Ленінградзе завяршыў работу пленум Усесаюзнага таварыства анколагаў. Прафілактыка рака — галоўнае пытанне, якое абмяркоўвалася. Аб прафілактыцы рака расказвае генеральны сакратар Усесаюзнага таварыства анколагаў прафесар Аляксандр Чаклін.

Два—тры дзесяцігоддзі назад большасць вучоных не верыла, што з'яўленне злаякасных пухлін можна папярэдзіць. Але клінічныя назіранні, вынікі эксперыментальных даследванняў даюць магчымасць сцвярджаць, што сёння ёсць рэальныя асновы для прафілактыкі рака.

Устаноўлена, што рак не развіваецца ў здаровым арганізме. Доўгія немачы ў 75 працэнтах выпадкаў папярэднічаюць раку прамой кішкі, у 83,7 працэнта — раку поласці рота, у 97 працэнтах раку скуры. Таму анкалогія разглядае ўвесь працэс захворвання ў цэлым, актыўна ўмешваецца ў яго не толькі на ранніх стадыях развіцця рака, але яшчэ задоўга да з'яўлення грозных сімптомаў.

Выяўленне перадпухлінных станаў — адна з галоўных задач лячэбных устаноў. Але надзвычай важную ролю ў прафілактыцы рака адыгрывае і іншае — ліквідацыя шкодных звычаяў, якія могуць прывесці да хваробы.

Некаторыя жыхары сярэднеазіяцкіх рэспублік СССР маюць звычку закладваць пад язык так званы «нас», сумесь з дробнага тытуню, попелу, баво̆унавага, кунжутавага або мінеральнага алею, крэйды і вапны.. «Нас» выклікае хранічныя захворванні слізістай абалонкі поласці рота, якія пасля могуць перайсці ў злаякасныя пухліны. У Індыі распаўсюджана жаванне лісця бетэлю, якое прыводзіць да перадпухлінных працэсаў у поласці рота. У Афрыцы насельніцтва ўжывае для лячэння некаторых хвароб расліну сенсен. Дзеянне гэтага алкалоіду не абыякавае для тканак печані. Развіццю рака стрававода садзейнічае ўжыванне залішне гарачага чаю, а таксама спіртных напіткаў.

Вялікі эфект даюць агляды хранічных хворых, сярод якіх злаякасныя пухліны выяўляюцца ў 3—5 разоў часцей, чым сярод практычна здаровых людзей, якія праходзяць комплексныя агляды.

У Савецкім Саюзе створана спецыяльная праграма барацьбы супраць рака метадам прафілактыкі. Яна прадугледжвае сістэматычнае правядзенне аглядаў насельніцтва ва ўзросце старэй 30 гадоў для жанчын і старэй 35 — для мужчын. Намечана такая арганізацыя паліклінічнай дапамогі, пры якой любы лячэбны агляд хворага даваў бы магчымасць выявіць найбольш частыя лакалізацыі рака і перадпухлінных захворванняў.

Вынікі аглядаў насельніцтва, якія праводзяцца рэгулярна 2 разы на год, паказалі зніжэнне колькасці хворых, што падлягаюць анкалагічнаму ўліку.

Так званыя прафесіянальныя формы рака — гэта злаякасныя пухліны, што развіваюцца на фоне хранічных захворванняў, выкліканых доўгім уздзеяннем на арганізм канцэрагенаў вытворчага паходжання.

Паказальныя прыклады — частыя ў мінулым з'яўленні злаякасных утварэнняў лёгкіх у рудакопаў (асабліва там, дзе здабывалася руда, у якой ёсць радыёактыўныя рэчывы), а таксама ў шахцёраў, рак скуры ў рэнтгенолагаў.

Устаноўлена канцэрагенная роля каменнавугольнай смалы, сажы і іншых прадуктаў згарання паліва. У смалістых экстрактах з атмасфернага пылу вялікіх гарадоў выяўлен небяспечны канцэраген 3,4 — бензпірэн. Выяўленне канцэрагенных рэчываў і магчымая ліквідацыя іх — вось рэальны шлях прафілактыкі перадракавых захворванняў.

Асноўныя фактары, з якімі звязваюць захворваемасць ракам лёгкага, — гэта задымленасць атмасферы і курэнне.

Устаноўлена, што для мужчын, якія не кураць ва ўзросце 40 гадоў, магчымасць захварэць к 60 гадам ракам лёгкага роўна 2 працэнтам. Для тых, што скурваюць ад 0,5 да 1 пачкі цыгарэт, — 11 працэнтаў, а для тых, што скурваюць больш чым адзін пачак, — 23 працэнты.

Стрымаць рост колькасці захворванняў ракам можна ўжо сёння. Але безумоўна, тут патрэбны комплекс мерапрыемстваў, за эфектыўнасць якіх адказныя не толькі ўрачы і арганізатары аховы здароўя, але і ўсё насельніцтва.

(АДН)

## Ці ведаеце, што...

...на пачатку гэтага стагоддзя было нас на Зямлі каля 1,5 мільярда, а цяпер каля 3,5 мільярда, а пад канец гэтага стагоддзя будзе 6 мільярдаў?

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Білі, білі — не разбілі

Статыстыкі падлічылі, што пры перавозцы яек з птушкафабрыкі ў магазіны разбіваецца прынамсі тры яйкі з кожных двухсот. На першы погляд здаецца, што не так ужо і многа, але калі ўзяць сусветную вытворчасць яек, дык гэта складзе амаль дзевяць з палавінай мільярдаў яек у год!

У апошні час спецыялісты пачалі задумвацца, як зменшыць такія страты. Навуковадаследчы сельскагаспадарчы інстытут у штаце Мінесота прапануе даваць курам корм, багаты магніем. Даследчыкі лічаць, што менавіта магній надае яечнай шкарлупіне трываласць. А міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША прапануе фермерам наогул «звальняць» курэй, якія нясуць яйкі з тонкай шкарлупінай. Спецыялісты міністэрства нават сканструявалі прыбор для вымярэння таўшчыні шкарлупіны, не разбіваючы яйка. І хто ведае, можа хутка і з'явяцца яйкі, пра якія скажуць, як у той казцы: білі, білі — не разбілі.



Манхатан, адзін з найбольш рухавых раёнаў Нью-Йорка.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### БЯДА НЬЮ-ЙОРКА

Бяда Нью-Йорка — пацукі. У трох раёнах горада: Куінсе, Бронксе і Брукліне яны сталі рэальнай небяспекай не толькі для дзяцей, але і для дарослых.

Гарадскія ўлады ўжо каторы год абяцаюць жыхарам трушчобаў «прыняць меры», але ад гэтых абяцанняў пагалоўе ўсюдуісных грызуноў не змяншаецца. А ў Нью-Йорк, на жаль, не прыходзіць чароўны музыкант, які сем стагоддзяў назад здолеў звесці ўсіх пацукоў з маленькага нямецкага гарадка і патапіць іх у рацэ.

Таму жыхары горада з вялікай цікавасцю прачыталі паведамленне, якое з'явілася ў газетах, што над стварэннем такога «музыканта» працуюць у адной лонданскай радыёфірме. «Чароўны музыкант» дваццатага стагоддзя — гэта радыёпрыбор, які стварае гук ультравысокай частаты. Такія гукавыя хістанні не ўлоўліваюцца чалавечым вухам, а пацукоў прыводзяць у стан панікі і прымушаюць выскокваць са сваіх нор. Англічане правялі некалькі выпрабаванняў прыбора каля свірнаў са збожжам. Кожны раз, калі ўключалі «чароўнага музыканта», выскоквалі са свірнаў на вуліцу грызуны, дзе іх і знішчалі.

Ці запросяць англійскага «чараўніка» ў Нью-Йорк? Пакуль невядома. Напэўна, гэта будзе залежаць і ад таго, колькі ён запатрабуе за свае «гастролі».

## Чвэрць стагоддзя назад




Канчаўся студзень. З Беластока, Бельска, Чаромухі надыходзілі весткі аб транспартах цыстэрнаў, якія везлі на ўсход бензін. А мы былі бездапаможныя. Вельмі патрэбны былі магнітныя міны. Пастанавілі мы з Нячаевым дзейнічаць. Трыццаць першага студзеня 1944 года паехалі ў Бельск. Гэтага ж дня Нячаеў адправіўся ў Беласток, а я на другі дзень у Чаромуху. Меў я там сустрэцца з машыністам, які ездзіў па лініі Чаромуха-Ваўкавыск і пераслаць ім праз кантактовы пункт у Ваўкавыску некаторыя дакументы Хмялеўцаву. Хмялеўцаў з радыётэлеграфістам дзейнічалі ў гэтым часе ў раёне вёскі Куклічы і Сабалькі, на паўднёвым усходзе Белавежскай пушчы. Перш за ўсё, прасілі мы нашага камандзіра, каб падкінуў нам магнітных мін.

Са мной паехаў Сашка Баравой. У Чаромусе аказалася, што наш машыніст у выездзе, вернецца заўтра. Пастанавілі мы пераначаваць у нашага сувязнога Хведара Сідарука з вёскі Кузава. Гэта вёска была непадалёк станцыі, амаль у лесе. Хата Сідарука была цесна, аднаізбовая. Жылі ў ёй гаспадар, жонка Вольга, цёшча, трое дзяцей і сваяк-чаляднік. Сідарук займаўся шавецтвам і прывучаў да гэтай прафесіі свайго сваяка. Быў надзейным чалавекам. Нягледзячы на цеснату і непасрэднае суседства пастарунка жандармерыі, прыняў нас на начлег. Пазавешваў коўдрамі вокны, прынёс снапок саломы, паслаў на падлозе. Павячэралі мы і каля гадзіны дваццаць трэцяй пайшлі спаць. Заўсёды, калі здаралася ў кагосьці спаць, я ніколі не раздзяваўся. Здымаў толькі боты. Так зрабіў і цяпер. Не раздзяваўся таксама і Сашка. Сідарук сёння меў на чыгунцы варту. Варту на чыгунцы ўвялі немцы. Расстаўлялі яны нанач мясцовых вартаўнікоў уздоўж чыгункі, а самі неслі патрульную службу, правяраючы цывільных вартаўнікоў. Вартаўнік, убачыўшы партызан, абавязаны быў біць трывогу. Калі на якімсьці адрэзку чыгункі партызаны ўзарвалі цягнік, а вартаўнікі не паднялі трывогі, вартаўнікоў з гэтага адрэзка немцы расстрэльвалі. Каб не дапусціць да крывавай расправы, партызаны перад чыгуначнай акцыяй, здымалі вартаўнікоў, вязалі іх, кнаблюючы раты.

Знайшоўшы павязаных сялян, немцы распытвалі іх. Тыя тлумачыліся нечаканасцю і збройным тэрорам. Пераважна выходзілі з гэтай сітуацыі шчасліва.

Менавіта сёння а дваццаць трэцяй гадзіне і пайшоў несці такую варту Хведар Сідарук.

Спалі мы спакойна да гадзіны пятай трыццаць, не ведаючы, што ўжо а першай ноччу дом акружылі жандармы. Было іх каля трыццаці. У пяць трыццаць пастукалі ў вокны. Схапіліся мы. Адхіліў я заслонку і глянуў на панадворак. Поўна немцаў! Свецяць ліхтарыкамі. Нешта, бы электрычны ток, пранізала мяне ад мазгоў да пят. Канец! — падумаў я.

— Валодзя, будзем бараніцца? — шапнуў Баравой.

— Няма сэнсу, Саша, — адказаў я. — Адзін выстрал з нашага боку, гэта смерць усім, хто знаходзіцца ў хаце.

— Дакументы?

— Позна, нічога нам не памогуць.

— Дык што, здаемся?

— Паглядзім. Дзе ты? Хадзі да мяне, — не бачыў я яго, у хаце панавала цемра. — Станавіся тут, перада мною.

Немцы не пераставалі грукатаць у вокны. Крычалі: — Адчыняй, матка!

Вольга Сідарук падышла да акна, адхіліла коўдру, пачала тлумачыць, што ў хаце яна сама з дзецьмі, муж пайшоў на варту.

— Адчыняй! — закрычаў жандар. — У цябе начуюць бандыты.

Я пачуў некалькі ўдараў прыкладамі ў дзверы, якія вялі ў сені. Потым бразнула адарваная засаўка і.. сноп святла з электрычных ліхтарыкаў асляпіў мяне. Я нічога не бачыў перад сабой. Адначасова пачуў каманду:

— Хандэ хох!

Стаяў я насупраць дзвярэй пад сцяной з паднесенымі рукамі. Побач у падобнай позе стаяў Баравой. Жандары стаялі ў дзвярах, трымалі нас у снапах святла ліхтарыкаў, быццам хацелі напаіць свае вочы карцінай злоўленых ахвяр.

— Матка, святло! — крыкнуў адзін з іх.

Гаспадыня зняла са сцяны нафтавую лямпу, паставіла на стале, які стаяў пры мне з левага боку. Запаліўшы святло, адышла да завешанай на бэльцы калыскі, выняла з яе плачучае дзіця, узяла на рукі і са словамі «Божа, Божа!» села на ложку.

Немцы рушылі ў наш бок. Было іх хіба пяцёра. Наперадзе з пісталетам у руцэ ішоў афіцэр, магутнае вярзіла, шэф жандармерыі ў Орлі, Мілер. Рэшта таксама трымала нас пад duламі сваіх карабінаў. Адзін з жандараў прыставіў мне дула да грудзей.

Страх счэз. Зрабіўся я раўнадушным. Глядзеў на кожны рух немцаў, бы кот, які рыхтуецца скочыць. У левай бакавой кішэні меў я адбяспечаны пісталет. Цяжар пісталета абцягаў уніз крысо пінжака. Гэта магло мяне выдаць. Таму мая правая рука была паднесена вышэй, левая ніжэй, бо локцем стараўся я прытрымаць крысо.

Мілер абшукаў Баравога. Пазіцыю маіх рук прыкмеціў жандар, што трымаў мяне на мушцы.

— Гэр лейтнант, гэты мае зброю! — крыкнуў ён.

Мілер штурхнуў Сашку ў бок ложка, на якім сядзела гаспадыня, скочыў да мяне і кулаком намерыўся ўдарыць мяне ў твар. Я адхіліўся і ўдар трапіў у ключыцу. Ён адкінуў мяне назад, на сцяну, што была крок за мною.

«Цяпер» — мільганула думка і я, як пружына, адбіўся ад сцяны, схапіў левай рукой тырчаўшае перада мною дула карабіна і трэснуў ім па лампе, што стаяла на стале. У гэтым самым мо-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГАРЦЭРЫ З ПАЎЛАЎ

Пры пачатковай школе ў Паўлах ёсць дружына гарцэраў. Дружынай гэтай камандуе настаўніца Валянціна Амельянюк. Шмат працы яна ўкладае ў гэта. У вялікія дзяржаўныя святы гарцэры трымаюць ганаровую варту побач кургана загінуўшых партызан, які знаходзіцца пры паўлаўскім лесе за вёскаю. Прыносяць летам туды жывыя кветкі і вянкі. Акрамя таго паўлаўскія гарцэры дапамагаюць адзінокім жанчынам. Яны едуць у лес, прывозяць дровы на панадворак, нават пакладаюць іх на кучы. І многа іншых работ яшчэ выконваюць. Вялікае брава вам, гарцэры.

**Янэк**
**Паўлы**

## МЕРАПРЫЕМСТВЫ ГУФЦА

Каманду гарцэрскага гуфца ў Гайнаўцы супольна з Таварыствам прыяцеляў дзяцей арганізавалі баль-маскарад для зухавых і гарцэрскіх атрадаў пад загалоўкам «Баль прафесій 25-годдзя Польшчы». На гэтым балі былі арганізаваныя конкурсы: на найарыгінальнейшы маскарадны ўбор, на песні аб народнай Польшчы, Войску Польскім і аб гарцэрстве.

*

Старэйшы гарцэрскі атрад імя Тадэуша Врубля пры лясным тэхнікуме ў Белавежы арганізаваў для 64 асоб урачыстае гарцэрскае абяцанне. Яно адбылося ў прыгожым месцы пушчы. На гэтую ўрачыстасць гарцэрскі атрад тэхнікума запрасіў 7-ы жаночы гарцэрскі атрад з ліцэя № 9 у Гайнаўцы. Клятву прымаў член рады гуфца Тэодар Ёнаш. Пасля адбыўся куліг, супольны абед і забава, на якой таксама былі конкурсы на найлепшую маску і песню. Камэнду гуфца прадстаўляў Янка Раманчук.

**Аляксей Харкевіч**

## ЖЫВЕМ ЗАМОЖНА

Вёску Пянькі можна параўнаць з вялікім пляцам будовы. Амаль кожны гаспадар нешта будуе — дом, хлявы, клуню. Многія гародзяцца прыгожымі платамі. Пры нашым сельскагаспадарчым гуртку не так даўно арганізавалася міжгуртковая машынная база (МБМ), да якой належаць, апрача пянькоўскага, сельгасгурткі з Казьмерова і Новай Волі. Такім чынам наш МБМ ахоплівае многа абшару. Карыстаецца ён вялікай папулярнасцю. А гэта таму, што тут вельмі многа сельскагаспадарчых машын. Трактараў тут налічваецца 28. Кіраўнік МБМ-у Зыгфрыд Ваўжыняк, брыгадзір Мар'ян Пяскоўскі і механік Сяргей Карэнюк маюць шмат работы. Людзям жывецца лёгка. Усё робіцца машынамі. Хапае часу на аглядание тэлевізійных перадач. А ў Пяньках налічваецца 18 тэлевізараў.

**Уладзімір Вярба**
**Пянькі**

## ХУТКАЯ ДАПАМОГА

29 студзеня г. г. у Пачатковай школе ў Паўлах вучаніца IV класа Валя Харытанюк падчас тульні зламала ключыцу. Бацька ў $10^{00}$ гадзін прасіў хуткай дапамогі ў павятовага «пагатоўя». «— Проша чакаць, зараз прыедзе», — адказаў дыспетчар па тэлефоне. Але гэтага «зараз» цяжка было дачакацца. Карэтка прыехала ў $19^{00}$ гадзін вечара. Ці часам гэта не задоўга?

**Я. Колька**
**Бельскі павет**




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю вялікае гора. Мне толькі 17 год, а выглядаю я многа старэйшай, бо трошкі затоўстая. А па-другое, маю непрыгожую фігуру: няма добрай таліі, малыя грудзі, вузкія бёдры. Мая фігура проста, так сказаць, слупаватая. З твару я не брыдкая, усе гавораць, што ветлівая, аднак цяжка мне навязаць сяброўства з хлопцам, бо я ўсё толькі думаю, што калі хлопец гляне на маю фігуру, дык аб рэшце няма што і думаць. Цяпер карнавал, на вёсцы забавы, вяселлі. Парай, Сэрцайка, як мне шыць сукенку ці штосьці іншае, каб трошкі палепшыць сваю фігуру.

**Чакаю адказу. Вельмі дзякую за параду.**

**Зіна**
**з Бельскага павета**

**Дарагая Зіна!** Не трэба так моцна пераймацца, а лепш падумаць, як затушаваць недахопы натуры. Калі ты трошкі толькі затоўстая, дык можна заняцца гімнастыкай, есці менш каларычныя стравы, а напэўна схуднеш. А фігура? З гэтым цяпер таксама няма вялікай бяды. Сучасная ж мода спрыяе такім фігурам. Сукенкі ж цяпер шыюцца простыя, не пасаваныя, унізе пашыраныя. У такім выпадку найлепш пашый сукенку зольную, з дзвюма ўкоснымі зашыўкамі, нізам пашыраную. Зрэшты, краўчыха і люстра табе ў гэтым дапамогуць. Добра ў тваім выпадку насіць спаднічкі (таксама пашыраныя ўнізе) і блузкі на спадніцу. Колеры найлепш спакойныя, даўжыня сукенак і спаднічак у залежнасці ад зграбнасці ног.

**Сэрцайка**

## РАЗЛІКАВЫ СХОД

У Гайнаўскім павеце зараз адбываюцца справаздачна-разлікавыя сходы ў сельскагаспадарчых гуртках. 8-га лютага адбыліся такія сходы ў Новым Беразове, Курашаве і Трывежы.

У Трывежы на гэтую свайго роду ўрачыстасць прыехалі: Віталіс Назарук з павятовага праўлення сельгасгурткоў, інструктар па справах механізацыі Іван Місеюк і Сяргей Плева — прадстаўнік ГРН.

Сход адкрыў прэзас сельгасгуртка Андрэй Габрылеўскі. Сельгасгурток у Трывежы мае 4 трактары з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын, малацільны агрэгат і шмат іншых машын. Машыны былі добра выкарыстаны ў мінулым годзе. На адзін трактар прыпадае 1150 гадзін працы, а на малацільны агрэгат — 505 гадзін.

Чыстага даходу мае гурток 50 тыс. зл. З гэтай сумы на ўзнагароды было прызначана 9,5 тыс. зл.

Падчас дыскусіі гуртказцы гаварылі аб магчымасцях яшчэ лепшага выкарыстання сельскагаспадарчых машын, аб яшчэ лепшай іх кансервацыі. Старшыня рэвізійнай камісіі сельгасгуртка Павел Лебядзінскі прыводзіў шматлікія факты аб тым, што ПОМ у Нарве дрэнна рамантуе трактары, што ў ПОМ-е замнога трэба насіцца з папяровымі фармальнасцямі, якіх можна было б пазбыцца, а найгоршае тое, што праводзяць там рамонты маладыя практыканты без нагляду спецыялістаў. Трактарыст Мартысюк даказаў, што новую якую-небудзь частку да трактара купіш за 100 зл, а яе ўмантаванне ў ПОМ-е каштуе 500 зл.

У далейшай дыскусіі гаварылася аб супрацоўніцтве гуртка вясковых гаспадынь з сельгасгуртком, аб папулярызацыі «паплёнаў», аб вышэйшых ураджаях.

Удзельнікі сходу не забыліся і аб сваім аднавяскоўцу Міколу Пракапюку, які страціў зрок. Пастаноўлена яму бясплатна вясною заараць поле.

Сваім абшырным выступленнем закончыў сход прадстаўнік ГРН — аграном Сяргей Плева. Падкрэсліў ён, што сяляне вёскі Трывежа ў 1968 годзе найлепш у грамадзе выканалі свае гаспадарчыя заданні, што маюць яны зараз 42 штукі быдла на 100 га зямельных угоддзяў, што высяваюць на свае палі 84 кг NPK чыстага рэчыва мінеральных угнаенняў.

Пасля сходу адбылася супольная вячэра, а пазней забава.

**Сэп**
**Трывежа**

## У РЫБАЛАХ НА ПАЎЛАЎСКАЙ ВУЛІЦЫ

Не раз вечарам прыходзіцца вяртацца з аўтобуса дамоў. Калі ўваходзім толькі на Паўлаўскую вуліцу, адразу акружаюць вялікія сабакі. З брэхам кідаюцца пад ногі і пачынаюць хапаць за вопратку. Мужчына яшчэ гэтаму дасць рады, калі паспее ў якога-небудзь дзядзькі «вылупіць» з плоту штахету. А што ж зробіць жанчына ці школьнік, калі акружыць такая псярня? Чаму гэтыя сабакі не прывязаны? А можа няма ў гаспадара ланцуга? А можа гэтым занялася б міліцыя?

**К. Я.**
**Рыбалы**

## АНДЖЭЙ БРЫХТ У ГАЙНАЎЦЫ

11-га лютага ў Доме культуры «Ляснік» і ў Доме настаўніка адбыліся спатканні з польскім літаратарам Анджэем Брыхтам. Сярод многіх яго кніжак найбольшую папулярнасць атрымала кніжка «Рапарт з Мюнхена» напісана ў сувязі з яго пабыўкай у Заходняй Германіі ў 1964 годзе па запрашэнню тамашніх выдавецкіх устаноў. Літаратар расказваў аб заходненямецкім грамадстве і вельмі вобразна прадстаўляў метады ідэалагічнай дыверсіі. Гаварыў ён таксама аб сваім творчым варштаце і аб сваіх планах на будучыню. Падчас дыскусіі прысутныя звярталі ўвагу на пісьменніцкае асяроддзе ў Польшчы і на гэтую тэму задавалі пытанні.

Спатканне з Анджэем Брыхтам працягнулася значна даўжэй, чым быў запланаваны на гэта час.

**Уладзімір Гацута**
**Гайнаўка**



Вёска Новае Ляўкова. Фота: Ц. Я.

манце ў правай далоні знайшоўся мой надзейны пісталет.

Трах! — гукнуў выстрал, выскачыў у цемру з дула пісталета вогненны язык і гітлеравец, як пень, зваліўся на падлогу. Мілер накінуўся на мяне, схапіў з боку ў абдымкі, намагаючыся абязброіць мяне. Удалося мне руку, у якой трымаў я пісталет, выкруціць назад, бахнулі два выстралы. Адчуў я свабоду. Немцы ўцякалі з хаты. Бах! Бах! Бах! — паліў я за імі, а потым кінуўся следам, думаў выскачыць на панадворак. Не выскачыў. Перад парогам убачыў я жандара, які цэліўся ў напрамку агародаў. Быў я ў цёмных сенях: не бачыў мяне. Навёў я на яго пісталет, націснуў на спуск... выстралу не было, у пісталеце не было куль. Скочыў я за дзверы і прысеў за бочкай з капустай. Уся гэта сцэна разыгралася ў секундах. Седзячы за бочкай, чуў я крыкі гітлераўцаў, якія несліся недзе з агародаў. Зразумеў я, што частка з іх кінулася ў пагоню за Сашкам. Значыць, уцёк! Як я яго не забіў у цемры?

Я быў упэўнены, што хата акружана, выйсця з яе няма, зручны момант да ўцёкаў страчаны. Засталося адно выйсце — смерць.

Зарадзіў я пісталет. «Трэба перш за ўсё замкнуць непрыкметна дзверы ад панадворка, каб немцы не ўкінулі ў сені гранаты», — развважаў я.

У тым часе, калі я заняўся закрываннем дзвярэй, старая бабуля, маці гаспадыні, запаліла каганец, паставіла яго на стол, упала перад вобразам на калені і пачала маліцца.

Бляск святла звярнуў маю ўвагу на тое, што дзеецца ў памяшканні. Верашчалі дзеці, бабуля малілася, яе дачка скручвалася ад болю на падлозе. Жандар стрэліў з панадворка, куля прабіла сцяну, шчыток ложка і раскрышыла косць сцягновую гаспадыні. Пасярэдзіне хаты ляжаў выцягнуўшыся забіты жандар. Мілер са звешанай на грудзі галавой напоўляжаў, напоўсядзеў у куце паміж печчу і сцяной.

Мяне ахапіла жудасць. Уцякаць адгэтуль як найхутчэй, чым далей! Але толькі цяпер усведаміў, што я босы. Боты стаялі ў хаце каля стала. Глянуў я на босыя ногі і ў гэтым моманце раздаўся аглушальны выбух. Сіла выбуху кінула мяне на сцену. Закружылася галава, у вачах блiснулі вогненныя кругі: «Забіты!» — падумаў я. Але адчуваю горкі, непрыемны пах дыму. Адчыняю вочы. У цёмных кутках, на сценах, на падлозе тысячы распаленых іскраў. Абмацваюся, рушаю нагамі, ніякага болю. Значыць, жыву! Працягваю далоняй па твары — пад пальцамі кроў. Ды гэта граната! Але адкуль? Дзверы закрыты. Хто кідаў? Не было часу на роздумы. Убягаю ў хату, адзяваю боты...

— Валодзя, а што з Сашам? — чую голас.

Адварочваюся. На печы, за комінам, бачу лахматую галаву чалядніка.

— Уцякай, хлопец! — крычу. — Уцякайце ўсе! Немцы вас вымардуюць!

Бяру карабін немца, выбягаю ў сені, хапаю за клямку, хачу адчыніць дзверы, але інстынкт самазахавання адштурхоўвае мяне назад. Адчуваю, што там, за дзвярыма прытаіўся вораг, яго карабіны нацэлены ў дзверы. Азірнуўся. І асяніла мяне збаўчая думка. Перааддзецца!

**(Працяг за тыдзень)**

**Ян Анацік**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Wspaniałe wakacje" (rumuński), 4—5. „Gdzie jest generał" (polski), 6—7. „Zjazd rodzinny" (węgierski) 8—9.

**Дубіны**

„Jutro Meksyk" (polski), „Krew na śniegu" (jugosł.) 8—9.

**Нараўка**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 6—9.

**Нарва**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 5—9.

**Чыжы**

„Intrygantki" (czeski), „Noc Iguary" (USA), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Trzydzieści trzy" (radz.), 4—5. „Noc bez końca" (bułg.), 6—7. „Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), 8—9.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 5—9.

**Орля**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 5—9.

**Райск**

„Gzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 5—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Nieznany" (polski), „Westerplatte" (polski), 4—7.

**Міхалова**

„Wspaniałe wakacje" (rumuński), 4—5. „Winetou" (jugosł.), I i II s. 6—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Orkiestra wojskowa" (węgierski), 4—5. „Drewniany różaniec" (polski), 6—7. „Trzy topole" (radziecki), 8—9.

**Шудзялава**

„Sami na oceanie" (radz.), „Rondo" (jugosł.), 5—9.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Drugi człowiek" (polski), „Więzy" (węgierski), 5—9.

**Новы Двор**

„Faraon" (polski), „Panowie z kompleksami" (włoski), 8—9.

**Ліпск**

„Hasło Korn" (polski), „Mam 19 lat" (polski), 8—9

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7117

